PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (1887) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 12 ЛІПЕНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ПОЛЬШЧЫ

У днях 23-25 чэрвеня пабывала ў Польшчы з афіцыйным візітам дзяржаўная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, пад кіраўніцтвам старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. У склад дэлегацыі ўваходзілі, між іншым: мітрапаліт менскі і слуцкі, экзарх усяе Беларусі, архіепіскап Філарэт, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, старшыня Замежнай камісіі Вярхоўнага Савета Валянцін Голубеў, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Алег Трусаў ды вядомы пісьменнік і вялікі маральны аўтарытэт Васіль Быкаў.

Галоўнай мэтай візіту было падпісанне Трактата аб добрасуседскіх адносінах і сяброўскім супрацоўніцтве /фрагменты трактата друкуем на стар. 8/ ды адкрыццё пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Трактат падпісалі галовы дзяржаў: Станіслаў Шушкевіч і Лех Валэнса. Сцвярджаецца ў ім, між іншым: «Бакі пагаднення кшталтуюць стасункі між імі як сяброўскія дзяржавы, у духу ўзаемнай пашаны, добрасуседскіх і партнёрскіх адносін. Кіруюцца прынцыпамі суверэннай роўнасці, пазбягання сілы або пагрозы яе ўжыцця, непарушнасці межаў, інтэгральнасці тэрыторый, мірнага спосабу вырашэння спораў, няўмешвання ва ўнутраныя справы, пашаны правоў чалавека і асноўных свабодаў ды права народаў на самавызначэнне».

Бакі пагаднення падкрэсліваюць непарушнасць дзяржаўнай мовы і заяўляюць, што не маюць, ані не будуць мець у будучыні ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій. Усе непаразуменні будуць вырашацца згодна з адпаведнымі дакументамі Канферэнцыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе, Парыжскай хартыі для Новай Еўропы ды прынцыпамі Хартыі Аб'яднаных Нацый.

У трактаце многа месца адводзіцца нацыянальным меншасцям: польскай на Беларусі і беларускай у Польшчы. Кожнаму чалавеку даецца права выбару прыналежнасці да той ці іншай нацыянальнасці. З гэтага

працяг на стар. 6






*Прэс-канферэнцыя беларускай дэлегацыі. Пасярэдзіне Станіслаў Шушкевіч. Злева ад яго – Пётр Краўчанка, справа – мітрапаліт Філарэт і Васіль Быкаў.*

## Басовішча'92

Пятніца /17 ліпеня/, субота /18 ліпеня/ і нядзеля /19 ліпеня/ - тры вялікія музычныя дні ў Гарадку! Выступяць найлепшыя выканаўцы беларускай маладзёжнай музыкі:

**Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі, Лера Сом, Кася Камоцкая і НОВАЕ НЕБА, Андрэй Мельнікаў, МРОЯ, УЛІС, МЯСЦОВЫ ЧАС, КРАМА, ДЗІДА, ТАЛЕР, ГРУНВАЛЬД, АЛЕН, ВАКЗАЛ, ГРАМАДА.**

Запрашаем верных сяброў двух папярэдніх «Басовішчаў» і ўсіх тых, якія стануць ягонымі сябрамі ад сёлета. Нагадваем, што ў Гарадок трэба ўзяць з сабою сама менш палатку, спальны мяшок і правіянт на тры дні. І крыху грошаў у наміналах Польскага нацыянальнага банку.

**Беларускае аб'яднанне студэнтаў**

## ПРАБЛЕМЫ МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ГМІНЫ

*Мілейчыцы - невялікая гміна на поўдні Беластоцкага ваяводства. Аб яе праблемах размаўляю з ЯАННАЙ СЛАКАТОВІЧ - сакратаром гміны.*

**- Адміністрацыйную ўладу на тэрыторыі гміны выконвае Гмінная ўправа. Раскажыце, калі ласка, якімі найважнейшымі справамі займаецца ваша ўстанова?**

- Гмінная ўправа з'яўляецца выканаўчым органам Гміннай рады і ў першую чаргу абавязана выконваць ухвалены ёю бюджэт. Забяспечваем таксама ўмовы дзейнасці падначаленых нам устаноў - прадшколля, гміннай святліцы, бібліятэкі, пажарных каманд, клапоцімся пра стан дарог. Бюджэт нашай гміны, у параўнанні з іншымі гмінамі і з нашымі патрэбамі, невялікі - усяго няцэлых 2 мільярды злотых. Хапае яго толькі на самыя неабходныя патрэбы, толькі на самыя неабходныя патрэбы, не стае ўжо на інвестыцыі.

**- Ад чаго залежыць велічыня гміннага бюджэту? З чаго ствараецца ваш бюджэт?**

- Падставай бюджэту з'яўляюцца ўласныя даходы, гэта значыць падаткі /сельскагаспадарчыя, лясныя, ад нерухомасці, ад сабак, транспартная аплата/, рэшткі мінулагодняга бюджэту і дзяржаўная субвенцыя. У нашым выпадку, калі ў гміне няма прамысловых прадпрыемстваў, важнай пазіцыяй у бюджэце ёсць субвенцыя - велічынёю ў 700 мільёнаў злотых. Уласных даходаў у гэтым годзе будзем мець каля 1100 мільёнаў.

**- Грошай не хапае на палагоджанне ўсіх патрэб. Якія з іх вымагаюць неадкладнага вырашэння?**

- Патрэбы ў нас вялікія. У гміне амаль усе дарогі гэта «жвіроўкі» і трэба было б адразу асфальтаваць кіламетраў пятнаццаць. Заканчэння рамонту чакае былая сінагога, з прызначэннем на дом культуры...

**- Пра неабходнасць рамонту гэтага будынка гаварылася ўжо дваццаць гадоў таму назад. Нядаўна рамонт пачаўся і зараз жа спыніўся. На якім этапе знаходзіцца рамонт сінагогі?**

- Адрамантаваны ўжо сцены і зроблены новы дах. З прычыны недахопу фінансаў рамонт трэба было спыніць і забяспечыць будынак перад далейшым нішчэннем. Рамонт праводзіўся, калі яго дафінансоўваў Ваяводскі захавальнік помнікаў. Цяпер няма надзеі на такую датацыю...

**- Дзе тады вядзецца культурная дзейнасць у гміне?**

- Гмінная святліца, калі пачаўся рамонт сінагогі, была пераведзена ў пажарнае дэпо, у памяшканне, непрыгоднае для вядзення культурнай працы. Яно малое, нефункцыянальнае. На добрую справу ў ім можна

працяг на стар. 3

## НА МЯЖЫ

**Частка I**

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Праўда, сёння амаль ніхто сярод адукаваных асоб не ўжывае ў адносінах да людзей інтарэсаў акрэсленне „капіталісты". Амаль усе гавораць „бізнесмены". Аднак звычайныя людзі, а такія дамінуюць сярод чытачоў „Нівы", так як было гэта перад вайной ці пасля вайны, ужываюць акрэсленне „капіталісты". Услед за імі гэты тэрмін буду ўжываць і я, хаця не думаю праграмна пазбягаць акрэслення „бізнесмены".

Перад апошнімі выбарамі ў Сейм адзін з беларускіх маладых бізнесменаў звярнуўся да мяне з пытаннем, ці я буду на яго галасаваць як на пасла. Я асабіста да гэтага маладога чалавека не меў ніякіх прэтэнзій. З добрага боку ведаю яго сям'ю, і таму адказаў яму, што буду галасаваць „за". Аднак, хутка высветлілася, што гэты чалавек не будзе кандыдаваць у варшаўскай акрузе і з гэтай прычыны галасаваць на яго мне не ўдасца. Я звярнуўся да чатырох сваіх знаёмых з Беласточчыны з прапановай галасаваць якраз на гэтага капіталіста. Даказваў я, што гэта малады дынамічны чалавек, які вядзе буйныя інтарэсы, і што яго дзейнасць прычыніцца да развіцця Беласточчыны і перад усім той яе часткі, у якой жывуць беларусы. Я быў перакананы, што такі характар аргументацыі паспрыяе павелічэнню колькасці галасоў, аддадзеных на майго кандыдата. Здаецца, так не сталася. Прымушае мяне так думаць характар рэакцыяў усіх маіх чатырох размоўцаў. Вось гэтыя выказванні ў невялікім скарачэнні:

Мужчына сарака гадоў: „Капіталіст беларускі, кажаш, будзе нам спрыяць? Каб яго так халера узяла. Награбе мільёнаў, а то і мільярдаў, памяняе на даляры, завязе іх у Швейцарыю, паложыць іх там у банк і будзе грабсці мільёны даляраў працэнтаў. Яго дзеці будуць тут жыць у раскошы, а мае будуць без наукі і без работы прападаці. Там дзе капітал — німа справядлівасці, толькі грабеж. Тож іх нават сегодня ніхто ўжэ капіталістамі не называе, толькі тымі, ну як іх... бізмэнамі, чы якімі там чэрцямі, а для міне то ўсе яны зладзея, от і ўсё".

Мужчына шасцідзесяці пяці гадоў: „Ну, брацішку, на кого то як на кого, але на такого то я галасаваці ні буду. Каб яны здохлі гэты капіталісты. Я іх добрэ помню з перад вайны. Тады як мужыкі жылі ў вошах і блашчыцах, калі хадзілі ў пасталах, калі чалавек здыхаў як толькі захварэў, бо не меў на дохтара грошэй. Тады калі ніхто з нашых тут вёсак не вучыўся ні толькі у універсіцетах, але навэт у гімназіі, то яны гэты твае капіталісты на курвах прапускалі мільёны. У нас тут у Белавежы цялі пушчу так, што толькі трэск ішоў, а калі мужык хацеў прадаць свіню, то прадаваў яе жыду за грашакі. І цяпер зноў так стаецца. Ты ж падумай, мэтэр жыта каштуе сорак тысяч, а мэтэр солі патасовае сто шэсьдзісят. От твое капіталісты. То ешчэ такого не было, каб земля штэры разы больш каштавала за збожа. Не, брацішку, на якого капіталіста галасаваць не буду. А можэ ён табе падсунуў мільёнаў трыццаць і таму за его так агітуеш?"

Мужчына трыццаці двух гадоў: „Гаворыце, наш капіталіст? І мы іх так называем, бо у радзіві і целевізары то-па другому кажут. Бацько мой говорыт, што перад вайною то ўсе капіталісты то былі або немцы, або палякі або жыды, беларускіх капіталістаў не было. І вядома, як яны добрэ грабілі наш народ. Бацько кажэ, што не было доступу ані ў школы, ані да ўжэнду, ані, скажэм, беларус не мог быць учыцелём. Жылі ў бядзе, бо капіталісты іх грабілі. После вайны, калі не было капіталістаў, людзі пажылі добрэ, а цяпер паяўляюцца капіталісты і паяўляецца бяда. Я зрабіў глупство, не хацеў вучыцца і застаўся на гаспадарцы і цяпер бачу, што мне каюк. Жонкі не знайду, нашы прадукты вельмі танныя, гарадскія вельмі дарагія. Ужэ ледзьве-ледзьве звязваем канцы з канцамі. Гаворыце, што гэты ваш кандыдат малады. А якая мне з яго карысць? Я не веру, што ён будзе лепшы за немца, паляка чы жыда. То бачыце, перад вайною грабіў чужы, а цяпер будзе грабіці свой, беларус. Можаце мне загарантаваць, што будзе мне лепш жыцца, калі я яго выберу? Напэўна не можаце. На ніякіх капіталістаў галасаваці не буду. Мы ўжэ тут пастанавілі, на кого будзем галасаваці. От і заголосуем на кого трэбо. Толькі не на капіталістаў, чы як іх называют сегодня — бізнэсменаў".

**А. БАРСКІ**

## З мінулага тыдня

**Польскім грамадзянам,** якія выязджаюць у Літву, неабавязкова мець візу, запрашэнне або дадатковы штамп. Хопіць мець толькі важны пашпарт. Аднак ад турыстаў, якія едуць у Літву транзітам праз Беларусь, беларускія пагранічныя службы будуць патрабаваць запрашэнні.

**Аддзяленне ПКС у Сямяцічах** адкрыла новы аўтобусны маршрут **Сямяцічы - Трокі.** Аўтобусы выязджаюць з Сямяціч а 13 гадз. і едуць праз Бельск-Падляшскі /гадз. 14.00/, Беласток /15.00/, Аўгустаў /17.30/, Сувалкі /18.15/, Сэйны /18.55/. Прыезд у Трокі а 23 гадзіне. З Трокаў аўтобусы выязджаюць таксама а 13 гадзіне.

**Восем арцыбіскупаў новых мітраполій,** утвораных у Польшчы, атрымалі з рук папы **Яна Паўла II** паліюшы - адзнакі вышэйшай улады ў Касцёле. Сярод іх быў арцыбіскуп **Эдвард Кісель** - мітрапаліт беластоцкі. Урачыстасць адбылася ў Базыліцы св. Пятра ў Рыме ў прысутнасці трыццаці арцыбіскупаў з чатырох кантынентаў.

**Старшыня Нацыянальнага польскага банка Ганна Гранкевіч-Вальц** паведаміла, што дэнамінацыя, найпрасцей кажучы, абазначае скрэсленне чатырох нулёў. Пасля такой аперацыі самай вялікай купюрай было б сто злотых, а ў абарот вярнуліся б дробныя грошы.

У Ольштыне адбудзецца **Польска-Украінскі форум,** арганізаваны Таварыствам «Памост» і Аб'яднаннем украінцаў у Польшчы. Тэмай сустрэчы, у якой будуць удзельнічаць паслы, сенатары і прадстаўнікі палітычных партый, будуць перспектывы суіснавання палякаў і ўкраінцаў.

**Верыфікацыя пакрыўджаных III Рэйхам,** якім будзе прыслугоўваць дапамога з Фонду «Польска-нямецкае прымірэнне», пачнецца ў ліпені. Першыя пакрыўджаныя, праўдападобна, атрымаюць грошы на пераломе жніўня і верасня. У першую чаргу кампенсацыю атрымаюць тыя, якім ужо за восемдзесят. Аб прызнанні дапамогі будзе вырашаць верыфікацыйная камісія ў Варшаве на падставе дакументаў, дасланых Таварыствам пацярпеўшых ад III Рэйха.

**На кантрольна-прапускным пункце ў Кузніцы** былі затрыманы тры мужчыны, якіх абвінавачваюць ў шматкратнай кантрабандзе спірту і цыгарэт. Праз два дні былі арыштаваны таксама тры мытнікі. Пракуратура ў Саколцы абвінавачвае іх у хабарніцтве і дапамаганні кантрабандыстам.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Генерал Ярузельскі шкадуе.
- Неабходнік „Басовішча" – на чатырох старонках.
- Размова з войтам Белавежскай гміны.
- Сакрат Яновіч аб паэзіі Надзеі Артымовіч.
- Справа „тройкі" ўсё яшчэ цягнецца.

**Камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы выказвае глыбокае спачуванне члену Прэзідыума АЛЯКСАНДРУ ПЛЕВЕ з прычыны смерці МАЦІ.**

## ТЕЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### МІЛЬЁН ЗА ЖЫЦЦЁ

На Беларусі, якая, паводле статыстыкі, займае зараз адно з першых месцаў у Еўропе па смяротнасці на вытворчасці, нарэшце, прадугледжваецца праектам закона аб ахове працы кампенсацыя блізкім і родным загінуўшых — мільён рублёў. Магчыма, боязь абанкруціцца прымусіць кіраўнікоў прадпрыемстваў больш уважліва ставіцца да тэхнікі бяспекі.

### ПАШАНУ Ў КІШЭНЬ НЕ ПАКЛАДЗЕШ

Камісія Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прыйшла да высновы, што трэба адмяніць усе ўрадавыя пастановы аб ганаровых званнях у галіне мастацкай творчасці. Як лічыць старшыня камісіі вядомы беларускі паэт Ніл Гілевіч, стымулам заахвочвання для творцаў павінны быць перш за ўсё матэрыяльныя ўзнагароды.

### ЭХ, ПЯСНЯР, КАБ ТЫ ЗБУДЗІЎСЯ...

У нядзелю ў Менску жыхары беларускай сталіцы адзначылі пяцідзесятыя ўгодкі з дня смерці Янкі Купалы.

Жалобны мітынг пачаўся на беразе Свіслачы ля помніка песняру. Затым людзі прайшлі па вуліцах горада да Вайсковых могілак, дзе адбылася кароткая паніхіда.

### „НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ"

Сенсацыйная навіна: на Беларусі з'явілася новае перыядычнае выданне. У Лідзе выйшла ў свет незалежная грамадска-палітычная газета „Народная трыбуна". Сенсацыйнасць гэтай падзеі ў тым, што з-за астранамічных цэнаў на паперу і друкарскія паслугі апошнім часам на Беларусі абанкруцілася шмат газет і часопісаў. Таму ахвотнікаў выдаваць газеты ў рэспубліцы цяпер няшмат.

Дарэчы, мяркуючы па эпіграфу „Народнай трыбуны" — „Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць" — новае выданне мае намер служыць справе адраджэння нашае Бацькаўшчыны.

### КПБ СУПРАЦЬ „ДЗІКАЙ" ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

У Менску адбыўся з'езд Канфедэрацыі працы Беларусі (КПБ). На ім была прынята праграма палітычных дзеянняў незалежных прафсаюзаў. У прыватнасці, сваёй першачарговай задачай незалежныя прафсаюзы лічаць спыненне „дзікай" прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці.

### ГОРАД НЕ ЦЁТКА

Неверагодна, але факт. У Менскім раёне з'явіліся 20 беспрацоўных вяскоўцаў. Раней яны жылі ў вёсках, а працавалі ў горадзе, зараз жа, з надыходам рынку, страцілі свае працоўныя месцы. І ўсё ж нягледзячы на страту работы, гэтыя людзі не збіраюцца развітвацца з паўгарадскім жыццём і ўладкоўвацца на працу ў калгасы, дзе, як вядома, бракуе рабочых рук.

### УВАГА, ДАРАЖЭЙ

Не так даўно Віцебскі гарвыканкам зацвердзіў прэмію ў гонар знакамітага мастака Марка Шагала.

І вось днямі першым лаўрэатам прэміі стаў віцебскі пісьменнік Давыд Сімановіч — аўтар шматлікіх твораў аб Марку Шагалу.

Вось толькі памер узнагароды па сённяшнім часе мізэрны — усяго 1500 рублёў.

### НЕ ХОЧУЦЬ ВУЧЫЦЬ

Чарговы мітынг настаўнікаў адбыўся на мінулым тыдні ў Гомелі. Настаўнікі выйшлі на цэнтральную плошчу горада з патрабаваннем павышэння заробку да сярэдняга ўзроўню заробку рабочага. Сёння беларускі настаўнік атрымлівае ў два разы меньш заробак, чымсьці рабочы.

Відавочна таму і прэстыж гэтай прафесіі апошнім часам рэзка ўпаў, ды і якасць навучання істотна знізілася.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПРАБЛЕМЫ МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ГМІНЫ

працяг са стар. 1

толькі глядзець відэафільмы. У святліцы працуе толькі адзін чалавек, няма інструктараў для вядзення розных форм культурнай актыўнасці.

**- Культурнае жыццё, думаю, не зводзіцца толькі да аглядання відэафільмаў у святліцы?**

- Амаль што так. З іншых форм культурнай актыўнасці можна назваць яшчэ дыскатэкі, танцавальныя вечарыны і раз на некалькі гадоў канцэрт нейкага калектыву. Напрыклад, нядаўна ў нас выступала «Гарадніца» з Гародні. Былі ў нас спробы арганізаваць вакальна-музычны калектыў, а прадстаўнікі ўкраінскай арганізацыі прапанавалі свайго інструктара. Тры разы прыязджалі яны ў гэтай справе, але мясцовая моладзь не праявіла ахвоты займацца ў такім калектыве.

**- А што дзеецца ў вясковых святліцах?**

- Існуюць толькі будынкі, якія завуць святліцамі. У іх няма ніякай дзейнасці. Служаць яны для вясковых сходаў, танцавальных вечарын, вяселляў.

**- У якой ступені Гмінная ўправа займаецца асветай?**

- Школа нам не падлягае. Мы ўтрымоўваем толькі прадшколле. У наш дзіцячы садзік цяпер ходзіць трынаццаць дзетак і гэта каштуе нам 235 мільёнаў злотых у год. Бацькі плацяць за адно дзіця 200 тысяч зл. у месяц. У садзіку працуюць дзве настаўніцы і трое рабочых. З новага навучальнага года ў прадшколле прымаем нулявы клас і тады персанал павялічыцца на наступных тры асобы. Выдаткоўваем мы таксама 168 мільёнаў злотых у год на давоз дзяцей у школу.

**- У вашым распараджэнні знаходзіцца таксама пажарная ахова?**

- Так, у гміне маем чатыры пажарныя каманды - у Мілейчыцах, Сабятыне, Валках і Рагачах. Працуе ў іх - на штатах - тры чалавекі, астатнія - гэта добраахвотнікі. Гміна гарантуе пажарнікам абсталяванне, абмундзіраванне, паліва, адным словам, забяспечвае боегатоўнасць пажарных каманд.

**- Сённяшняя сітуацыя дазваляе праяўляць людзям ініцыятыву ў галіне гаспадарчай дзейнасці. Колькі прадпрымальнікаў аб'явілася ў вашай гміне?**

- У гміне зарэгістраваны 52 прыватныя фірмы, пераважна гандлёвага характару. Да гэтай пары гандлем амаль выключна займаўся ГС. Цяпер ГСаўскія крамы знаходзяцца толькі ў Мілейчыцах, Сабятыне, Харашчэве і Паканеве. У Рагачах і Мядзвежыках крамы ўзялі ў арэнду прыватныя гандлёўцы, а ў Паканеве-каленіі адкрыўся нават «Міні-маркет». Аднак не ўсе фірмы займаюцца гандлем. Ёсць і сталярскія паслуговыя пункты, тартак, транспартная фірма.

Апошнім часам у нас адраджаецца традыцыя штотыднёвага кірмашу. У кожную пятніцу, на пляцоўцы непадалёку ад аўтобуснага прыпынку адбываецца «рынак». З раніцы падобны кірмаш праходзіць у Нурцы, а ў нас пачынаецца пазней, каля 12 гадзіны. Таргуюць на ім мясцовыя гандляры, прыязджаюць таксама і турысты з Усходу. За адзін дзень Гмінная ўправа інкасуе звыш 200 тысяч аплаты ад гандлюючых.

**- Раней важнымі вытворчымі прадпрыемствамі ў гміне лічыліся кафлярня і СКР. Якая цяпер іх кандыцыя?**

- Думаю, што слабая. Кафлярня хіба спыніць сваю дзейнасць. Няма запатрабавання на яе падставовую прадукцыю - кафлі. СКР апрача некаторых сельскагаспадарчых паслуг займаецца яшчэ вывазам нечыстотаў і будовай дарог.

**- А хто гаспадарыць на зямлі, здадзенай сялянамі ў Дзяржаўны фонд?**

- Маем клопаты з поўным загаспадараннем грунтаў з ПФЗ. Агулам у гміне 1018 гектараў такой зямлі. Стараемся яе прадаваць або аддаваць у арэнду. Цяпер у арандатараў знаходзіцца звыш 500 га, каля 400 га сяляне апрацоўваюць незаконна, без пісьмовай дамовы з Гміннай управай, каб не плаціць падаткаў. 50 гектараў знаходзіцца ў распараджэнні сялян-пенсіянераў, а астатняя зямля ляжыць аблогам. З канцом года грунты ПФЗ перадамо Agencji Własności Skarbu Państwa.

**- З таго, што вы сказалі, мяркую, што ў гміне далей няма зацікаўлення працай на гаспадарцы. Ці беспрацоўе ў гарадах не прымушае выхадцаў з вёскі вяртацца на гаспадарку?**

- Не, не наглядаем у нас такога. Вёска далей старэе. Лік жыхароў у гміне памяншаецца /зараз іх каля трох тысяч/. Расце лік пенсіянерскіх сем'яў. Маладыя беспрацоўныя, калі і вяртаюцца да бацькоў на вёску, то не пераймаюць гаспадарку, але захоўваюць свой статус, каб, дапамагаючы бацькам, браць грошы для беспрацоўных. У гміне маем каля ста беспрацоўных. У большасці гэта мужчыны з падставовай і прафесійнай адукацыяй. У мінулым годзе арганізавалі мы для іх так званыя інтэрвенцыйныя работы пры кансервацыі меліярацыйных равоў, будове дарог і парадкаванні вуліц.

**- Якія праблемы нясе з сабою з'ява старэння гміннай грамадскасці?**

- У такой сітуацыі даводзіцца нам арганізаваць розныя формы дапамогі састарэлым. Нашай агендай з'яўляецца Гмінны асяродак грамадскай дапамогі. Працуюць у ім два чалавекі, якія вывучаюць сітуацыю найбяднейшых сем'яў, і наладжваюць ім дапамогу. Найчасцей купляем сваім падапечным харчы, апал, выплачваем грошы. Фінансуем таксама працу сёстраў Польскага чырвонага крыжа. Працуе іх у нашай гміне дванаццаць. Плануем пашыраць формы суседскай дапамогі.

**- З усяго сказанага вамі вынікае, што сітуацыя ў гміне, як і ва ўсёй краіне, даволі складаная. Канчаючы размову, жадаю хуткага вырашэння набалелых праблем.**

**Гутарыў В. ЛУБА**



*Яанна Слакатовіч – сакратар гміны ў Мілейчыцах.*

# УШЭСЦЕ ТЭРЭСЫ ЗАНЕЎСКАЙ

Перадвакацыйны семінар *«Белавежы»* прысвяцілі крытычнай творчасці Тэрэсы Занеўскай; пачаўся ж выступленнем *«Дарэмнае падарожжа. Нарысы аб беларускамоўнай паэзіі ў Польшчы»*. Аўтарка - сама палячка, а датага ж мазаўшанскага роду - колькі гадоў цікавіцца нашым літаратурным рухам. Робіць гэта грунтоўна, не толькі ў інтэлектуальным плане. Сёння яна ўжо свабодна чытае і нават спрабоўвае акуратна пісаць па-беларуску. Трэба сказаць, што гэта добрая нам знаходка. Як быццам сам лёс злітаваўся над нашым асяроддзем, ад самога пачатку пазбаўленым рэгулярнай літаратурнай крытыкі, без якое няма нармальнага творчага працэсу.

Справа здаецца простай, але на першы погляд. Мы часта блытаем крытыку з банальным, я б сказаў бы, працсяцкім крытыканцтвам. Творчасць крытыка патрабуе асобнага таленту і, разам з ім, глыбокай інтэлігентнасці, начытанасці ды арыентацыі ў сусветнай літаратуры; умельства прадчуць і зразумець індывідуальнасць пісьменніка, яго месца ў літаратуры наогул, а ў нацыянальнай перш за ўсё; дапамагчы гэтым самым аўтару ўсвядоміць сваю асаблівасць, вызваліць у сабе нярэдка непрадчуваны патэнцыял.

Крытыка пад пяром Тэрэсы Занеўскай, вядома, мае свой ухіл, які з'яўляецца вынікам лепшага апазнання ёю польскай ды еўрапейскіх літаратур, чымсьці ўласна беларускай. Неразумна было б, аднак жа, трактаваць тое ў якасці папроку ў яе адрас. Тым больш, што самім нам якраз вельмі і вельмі не хапае літаратурных ведаў у маштабах Еўропы; усё смокчам, так сказаць, свой нацыянальна-беларускі хвост... Занадта часта кампраметуемся здзіўленнем, што **няма нацыянальнага без універсальнага, як і універсальнага без нацыянальнага.** Фармаванне народу ў нацыю - гэта далучэнне яго да свету, выводжанне з глушы і парафіяншчыны, з вясковай геніяльнасці, з фальклорнага прымітыву.

Застаецца спадзявацца, што з'яўленне Занеўскай прадракае нашаму асяроддзю шчаслівае заканчэнне занадта доўгага этапу некаторай творчай інваліднасці, аб чым згадваю я ўпачатку. Надзея на маладых у «Белавежы», бо старых у ёй толькі магіла паправіць. Зрэшты, ішлі мы ў літаратуру жахліва недавучанымі, шпанўючы на ўзроўні чвэрцьінтэлігентаў, ствараючы кніжкі ў большай меры т.зв. голым талентам, чымсьці тэхнікай майстэрства. Такі быў час, такая эпоха.

Тэрэса Занеўская падрыхтавала да друку том сваіх нарысаў па творчасці вядучых пісьменнікаў *«Белавежы»*. Выйдзе з друку, пачытаем. Можа каму і не позна будзе яшчэ сёе-тое зразумець пра самога сябе...

І хоць на двары, за акном універсітэцкага кабінета старшыні *«Белавежы»* Яна Чыквіна, спёка пераскочыла за трыццаць градусаў ды большасць адэптаў літаратуры палічыла за лепшае падрамаць у святую нядзельку у карчах над рэчкаю, - семінар удаўся як бы ў адваротнай прапорцыі да лічбы прысутных на ім. Гэта быў адзін з лепшых, што таксама насоўвае ўсякія прыкрыя думкі наконт нашых літаратурных дам і мес'е.

З выдавецкіх навінаў варта адзначыць, што друкуецца памалу зборнічак малавядомых твораў Ларысы і Юркі Генюшаў, маці і сына. Пасля вакацыяў, відаць, зможам узяць яго ў рукі, з пахам свяжуткае фарбы.

А яшчэ і вось што: час падзадумацца над трыццаціпяцігоддзем *«Белавежы»*, да якога дай Бог, сяк-так удана дажыць у наступным, 1993-ім.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

*P.S. «Дарэмнае падарожжа» - гэта метафара, а не сумнае паведамленне.*

**КАШТОЎНАЕ ВЫДАННЕ**

На днях у Кракаве выйшла з друку кніжка Казімежа Урбана „Праваслаўная Царква ў Польшчы 1945—1970 (Праблемы стабілізацыі царкоўнага жыцця)"*. Выдала яе Эканамічная акадэмія ў Кракаве ў серыі „Манаграфіі".

Вышэй названая кніжка з'яўляецца габілітацыйнай працай Казімежа Урбана, навуковага супрацоўніка Кракаўскай Эканамічнай акадэміі.

Паколькі на сённяшні дзень заўважаецца недахоп публікацый, прысвечаных Праваслаўнай Царкве, гэта кніжка будзе каштоўнейшай крыніцай ведаў аб Праваслаўі ў Польшчы.

**(Р.С.)**

———————

* *Kazimierz Urban, Kościół Prawosławny w Polsce 1945—1970 (Z zagadnień stabilizacji życia kościelnego), Kraków 1992, ss. 200, nakład 200 + 20 egz.*

 

# „ПОП МУЗЫКА" І „СОРОКА"?

У беларускай музыцы, сказаў мне журналіст менскай радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» Віталь Сямашка, наглядаецца адна станоўчая з'ява. Шмат рок-гуртаў, якія вывучалі музычны варштат у расейскім року, цяпер пачынаюць спяваць па-беларуску. Аж прыемна было паглядзець, калі аціхалі расейскія фанаты рока ў час канцэрту з нагоды незалежнасці - загрымелі там адно беларускія гурты, ні слова не было па-расейску... Яны былі прыбітыя.

У «Беларускай маладзёжнай» я пабачыў, што маладая беларуская музыка сяк-так падымаецца на свае ногі. Маладыя барацьбіты імкнуцца выпускаць касеты з запісамі болей сталых у сваёй музычнасці выканаўцаў - сярод загалоўкаў «Мроя», «Новае неба»... Прафесійнасць выканання гэтых касет, мабыць, і далёкая ад узроўню нашых беластоцкіх вулічных піратаў, але ўражвае акуратнасць падыходу да ўсяе справы.

Сярод праяў музычнага адраджэння таксама літаратура. Як і ўсе свядома накіраваныя выданні ў Рэспубліцы, літаратура гэтая выдаецца на расейскай мове. Прапаную тут знаёмства з двума загалоўкамі: месячнік «Сорока» /альбо «40а»/ і квартальнік «Поп музыка». Першы з іх, аб'ёмам у 16 старонак, накіраваны на бягучую інфармацыю. Знойдзеце там замежныя і «саюзныя» гіт-парады, рэцэнзіі радзімых і заходніх дыскаў, інфармуюць пра канцэрты, правераныя і неправераныя чуткі. «Сорока» ілюстраваная здымкамі рэспубліканскіх, эсэндоўскіх і замежных «монстраў» рока. Зрэдку ў месячніку трапляюцца матэрыялы аналітычнага характару /прыкладам «История Queen», н-р 3, 1992/. Месячнік «Сорока» - выданне чорна-белае, у агульным нагадвае крыху нашу непадцэнзуршчыну васьмідзесятых гадоў.

Квартальнік «Поп музыка» - выданне саліднае. Аб'ём 64 старонкі плюс каляровая вокладка і каляровы плакат усярэдзіне. Сваім зместам «Поп музыка» перавагу аддае аналітычнаму матэрыялу /для прыкладу «Heavy metal на пороге 90-ых», ці «20 концертов, которые изменили лицо рока» - пераклад артыкула з амерыканскага „Rolling Stone". У „Поп музыцы" вы знойдзеце таксама пастаянныя рубрыкі: «Фан-контакт», ці класны «Рок-мартиролог», аўтары якой пералічаюць прозвішчы загінуўшых музыкаў і спосабы, як тое адбылося. Вядома ж, перавага тут за катастрофамі, самагубствамі і наркотыкамі, але, для прыкладу, Тэры Кат /гурт Chicago/ застрэліўся, гуляючы ў рускую рулетку. «Поп музыка» вельмі багата ілюстраваная здымкамі - са старонак дабратліва пазіраюць на нас Джым Морысан, Джон Ленан і іншыя.

Рэкамендую ўсім знаёмства з гэтымі часопісамі. Адрасы для карэспандэнцыі такія:

«Сорока»,
22131 Менск-131, п/с 98,

«Поп музыка»,
220114 Менск-114, п/с 519.

**А. МАКСІМЮК**

# МОЙ ЮБІЛЕЙ

**У гэтым годзе наш карэспандэнт Андрэй Гаўрылюк адзначае юбілей пятнаццацігоддзя супрацоўніцтва з «Нівай». З гэтай нагоды рэдакцыйны калектыў віншуе яго і жадае яму ўсяго найлепшага ў жыцці і карэспандэнцкай дзейнасці. Нашым чытачам прапануем ягоныя ўспаміны.**

Прайшло пятнаццаць гадоў майго супрацоўніцтва з «Нівай». Гэта многа і мала. Іншыя карэспандэнты супрацоўнічаюць намнога даўжэй. Раней было шмат карэспандэнтаў і між намі вялося свайго роду спаборніцтва - хто прышле ў «Ніву» больш допісаў. Памятаю, што Мікалай Панфілюк, як сячкарня, рэзаў свае матэрыялы. Пераліствою альбом і лічу свае карэспандэнцыі. За 1978 год я апынуўся на дзесятым месцы, за 1979 - на шостым, за 1980 - на адзінаццатым. Разам з Пятром Байко я быў пераможцам сярод карэспандэнтаў у 1981 годзе. Яніна Чэрнякевіч пісала тады ў «Ніве», што я заўсёды і ўсюды ўмею знайсці тэму, якой можна зацікавіць чытачоў. Для мяне не было перашкод у вылаўліванні беларускіх зярнятак у акружаючым асяроддзі. Прыпамінаю, што ў 1980 годзе «Ніва» надрукавала 509 публікацый 74 карэспандэнтаў. І ўсё гэта ў 52 нумарах тыднёвіка.

На працягу гэтых пятнаццаці гадоў я актыўна працаваў для беларускай справы. Мае кантакты з «Нівай» пачаліся ў 1977 годзе. Будучы аднойчы ў Анны Калішэвіч, маёй суседкі, я зацікавіўся гэтай газетай. Прачытаў я некалькі нумароў. Тады я слаба чытаў па-беларуску. Беларускай мовы не вывучваў ніколі, толькі рускую. У пазнаванні беларускай мовы многа дапамагла мне Люда Асеннік з Відава, выпускніца Беларуская ліцэя. Яна падаравала мне польска-беларускі слоўнік, а потым настаўнік-пенсіянер Яўген Аніська - руска-беларускі слоўнік.

Як сёння памятаю, што намаляваў я нешта ў «Ніву», а пасля прачытаў у «Нашай пошце»: «Андрэй Гаўрылюк, смейцеся з гумараў, якія прапануе рэдакцыя. Не прысылайце гумару, лепш пішыце пра вёску і людзей». Пачаў я тады пісаць, але на польскай мове. «Ніва» стала друкаваць мае допісы. Праз нейкі час асмеліўся я і напісаў па-беларуску. Вельмі хваліваўся я за сваю беларушчыну, але рэдакцыя адказала: «Як бачыце, някепска. Віншуем!» Я вельмі цешыўся, што пачаў пісаць на цудоўнай матчынай мове.

Праз «Ніву» я пазнаёміўся з многімі разумнымі людзьмі, як Пётр Байко, Сакрат Яновіч, Васіль Петручук, Тамаш Кірылаў, Барыслаў Рудкоўскін. Пазнаёміўся і з журналістамі «Нівы», таксама цудоўнымі людзьмі. Калі я ажаніўся і пераехаў жыць у Ольштын, я не парваў сувязяў з «Нівай» і далей дасылаю свае допісы. Тут таксама стараюся працаваць для дабра беларускай справы. Нядаўна ўдалося мне стварыць Тэрытарыяльную раду БДА і я з'яўляюся яе старшынёю.

У апошнім часе штораз менш матэрыялаў карэспандэнтаў публікуецца ў «Ніве». Думаю, што таму і падае лік чытачоў. Проста людзі хочуць, каб «Ніва» пісала пра справы вёсак і гарадоў, у якіх жывуць беларусы. Як цудоўна было супрацоўнічаць з «Нівай» у васьмідзесятыя гады! З прыемнасцю ўспамінаю Веру Леўчук, якая намі апекавалася і арганізавала з'езды карэспандэнтаў. Некаторыя гавораць, што без публікацый карэспандэнтаў «Ніва» робіцца менш цікавай, і падбадзёрваюць мяне, каб не здавацца і пісаць у «Ніву» далей. Адгукніцеся, колішнія карэспандэнты, Грыша Мароз, Валянцін Семянюк і іншыя, пішыце ў «Ніву»!

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК,**
**Ольштын**


*Андрэй Гаўрылюк рыхтуе чарговую карэспандэнцыю ў „Ніву".*
*Фота Ірэны Гаўрылюк.*






## НЕ ЎСЁ ЗОЛАТКА, ШТО БЛІСКАЕ

Вельмі ж я здзівіўся, калі ў спадара Алеся Барскага („Рэлігійныя дылемы", Частка XIII — „Ніва" ад 7 чэрвеня б.г.) прачытаў такія вось словы: *Я асабіста ніколі не чуў ад якога-небудзь няверуючага беларуса, каб ён прапанаваў знішчэнне царквы. (...) Не чуў таксама, каб які-небудзь няверуючы беларус з Польшчы лаяў веруючага за яго рэлігійныя перакананні.*

Шаноўны А.Барскі! Ці не задалёка вы заехалі, калі на старонках „Нівы" бароніце нашых атэістаў і прадстаўляеце іх як нейкіх анёлікаў? Магчыма, Вы не чулі ад іх такіх страшэнных слоў, як знішчыць царкву, альбо паклёпаў ці насмешак над веруючымі. Я асабіста многа разоў чуў такія словы. Найперш чуў на партыйных сходах з вуснаў нашай беларускай дубіцкай клікі заправілаў. Многа разоў на гэтых сходах былы начальнік гміны чапляўся да ўсіх веруючых: праваслаўных, католікаў, баптыстаў, сведкаў Яговы і лаяў іх усіх апошнімі словамі... Падтрымлівалі яго дзядзька і яшчэ адзін пахлёбач. Рэшта таварышаў маўчалі і толькі мой бацька сварыўся з гэтай тройкай сталіністаў да зубоў, а я яму дапамагаў. Але — што мы значылі? За гэта і іншыя спрэчкі майго бацьку выкрэслілі з партыі (хаця ён перад тым аднёс у камітэт партыйны білет, каб не страціць гонару). Я выйшаў раней з гэтай ПАРП.

Помню таксама, як былы начальнік гміны зазурыў на вуліцы адну жанчыну, якая на днях запісалася ў сведкі Яговы, і давай лаяць яе апошнімі і брыдкімі словамі і прызываць слепаком (яна ў час вайны страціла вока), а ўсё гэта за тое, што яна належыць да сведкаў Яговы, а не да партыі. Жанчына прамаўчала гэтыя здзекі.

І яшчэ хачу дапоўніць свой артыкул здарэннем свежай даты. На свята Івана — 21 мая б.г. — будучы ў адной з вёсак Дубіцкай гміны, сустрэў я на вуліцы групу мужчын, якія дыскутавалі пра палітычныя справы ў Польшчы і Расіі. Прыпыніўся і я, і слухаю, як адзін валіць на папоў і ксяндзоў. І тут падышоў да іх адзін чалавек „з-пад лесу", і давай дапамагаць таму п'янаватаму чалавеку ды яшчэ выхваляць Сталіна. Я не сцярпеў і кажу: Сталін — гэта злачынца, бо ж колькі ён знішчыў нявінных людзей, колькі цэркваў разбурыў, знішчыў культуру і традыцыю, зафальшаваў гісторыю, і да ўлады дапусціў найгоршых лайдакоў... Дык той з-пад лесу ажно падскочыў і гыркнуў: а ты помніш усё гэта? Адказваю, што не помню, але людзі і гісторыя помняць. А той сваё: маўляў, Сталін нікога нявіннага не асудзіў, а толькі адных вінаватых высылаў у Сібір і турмы, а наконт цэркваў, дык ён — Сталін — замала панішчыў, бо трэба было ўсе папаліць. (Дарэчы, чалавек гэты — прэзас ЗБоВіДу, значыць — „заслужаны дзеяч". Хто яго выбраў? Партыйна-наменклатурная кліка альбо яе прыхвасні). Гэткія словы можна пачуць у нас сёння. А як было ў Дубічах Царкоўных пры саветах, у 1939—41 г.г.? Тады была створана імі так званая самаабарона, прызыўнікі з малакасосаў, камандаваў імі мясцовы галыш і лодыр — Паўстанец (такую меў клічку). У час багаслужбы Паўстанец ганяў свой „атрад" навокал царквы, гарлапанячы антырэлігійныя песенькі. У кожную нядзелю. Васіль Петручук у сваёй „Пожні" таго Паўстанца згадвае, але нешта пра гэтыя яго заслугі не ўпамінае.

І што вы на гэта, А. Барскі?

А Вы самі, як колішні адданы камуніст, ці не стараецеся сёння абяліць гэткіх сталіністаў? На гэтае мне выглядае. І штосьці мне не верыцца, што Вы ніколі не чулі, быццам сярод нашых беларусаў на Беласточчыне ніхто не выступаў супраць рэлігіі ці веруючых. Калі так, дык Вы, хутчэй за ўсё, сярод людзей не былі і нічога не ведаеце. Таму, я лічу, дарэмна Вы ў „Ніве" павучаеце беларускі народ, як ён павінен сябе паводзіць і як верыць у Бога. І думаю яшчэ, што нашы браты ў Рэспубліцы Беларусь самі разбяруцца ў гэтай надта складанай справе.

Уражанне ў мяне такое, што Вы стараецеся сябе апраўдаць. Бо інакш як растлумачыць гэтую дзіўную перамену, што наступіла з Вамі, калі параўнаць сённяшнія Вашы рэлігійныя погляды з тымі, якія Вы мелі пры камуне?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**





 

## XXXVIII. НЕВЫНОСНЫ ЧАС

Кароткая, бо ўсяго пяцігадовая /1415-1420/ пастырская дзейнасць мітрапаліта Цамблака - гэта няспыннае і напружанае змаганне яго разам з епіскапатам за справы Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/. Перш за ўсё блажэннейшы Рыгор і епіскапы вымушаны былі ўсцяж абараняцца ад абразлівых нападаў мітрапаліта маскоўскага Фоція, які ўсялякімі спосабамі імкнуўся кампраметаваць іх у вачах праваслаўных. Дакучала таксама непрыхільнасць да мітрапаліта Рыгора - самога патрыярха канстанцінопальскага.

Пасля перамогі пад Грунвальдам у 1410 г. настаfull часы адбудовы царкоўнага жыцця, што было знішчана крыжацкімі нашэсцямі за мінулыя паўтара стагоддзя ва ўсёй заходняй і паўночнай частках Беларусі і на землях сённяшняй Беласточчыны. Часта даводзілася адраджаць праваслаўныя храмы там, дзе ледзь памяць чалавечая захавалася пра іхнюю колішнюю бытнасць. Трэба было забяспечыць многія прыходы свяшчэннікамі, а цэрквы багаслужэбнымі кнігамі, літургічным начыннем, іконамі і іншым царкоўным абсталяваннем. І мітрапаліт з епіскапатам працавалі не пакладаючы рук. Хронікі захавалі звестку, між іншым, што ў 1405 г. князь Вітаўт звяртаўся да епіскапа тураўскага Антонія, каб ён ахрысціў у праваслаўную веру літоўскае насельніцтва, якое жыло ў Цэнтральнай Беларусі /гэта значыць, тую Літву, што знаходзілася на абшары паміж Маладэчнам, Заслаўем, Нясвіжам, Слонімам і Навагрудкам і ад якое пайшла назва Вялікага княства Літоўскага/. Такім чынам Праваслаўная Царква выконвала яшчэ нават і ў тым часе хрысціянізацыйную місію сярод неславянскага насельніцтва.

Мітрапаліт Рыгор імкнуўся, каб Праваслаўная Царква як мага актыўней удзельнічала ў грамадскім жыцці краіны і дзеля таго перанёс мітраполічую кафедру са Свята-Барысаглебскага манастыра ў Навагрудку ў Прачысценскую царкву ў Вільні. Архіпастыр клапаціўся і пра сваю місію евангельскага ўздзеяння на панукучага і яго акружэнне. Ніканаўскі летапіс аднатоўвае паданне, паводле якога мітрапаліт аднойчы запытаў Вітаўта, чаму ён не вяртаецца ў Праваслаўе. Вітаўт адказаў яму: няхай уладыка паедзе ў Рым і перакапае папу і айцоў Касцёла каталіцкага, тады і ён, князь, вернецца ў Праваслаўе. Тым самым Вітаўт даў намёк на тое, што гэта палітычныя абставіны дзяржавы прымушаюць яго трымацца каталіцызму.

Мітрапаліт Рыгор быў надзвычай таленавітым і плённым пісьменнікам і прапаведнікам. Вядома нам пра 26 ягоных казанняў і іншых твораў, глыбокіх сваім зместам і багатых сродкамі мастацкага выразу.

Восем пропаведзяў - гэта «Словы» на Гасподнія і Багародзічныя святы, між іншым, на Вербную нядзелю, Ушэсце, Уздзвіжанне, Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы. «Хто не жахнецца, зразумеўшы, што ўчынілі неразумныя людзі? - усклікаў мітрапаліт Рыгор у „Слове на Вялікую Пятніцу". - Таму і сонца пацямнела, і месяц змрокам ахутаўся, бо люты Ізраіль не меў пачуцця літасці, горш за бяздушныя стварэнні быў нячулы".

Сем дайшоўшых да нас пропаведзяў мітрапаліт Рыгор прысвяціў дням урачыстага ўшанавання святых, у тым ліку св. Ільі, Нараджэнню Іаана Хрысціцеля, апосталам Пятру і Паўлу і іншым. «Сёння, браты, анёлы граюць, паветра аздараўляецца, рэкі хутчэй бягуць, мора суцішаецца, дэльфіны гуляюць, зямля сады выпускае, сады цветам красуюцца», - заўважае наш выдатны мітрапаліт-пісьменнік у «Слове» на свята Юрыя.

Захаваныя шэсць «Словаў» блажэннейшага Рыгора прызначаны на нядзелі і на розныя здарэнні, як, напрыклад, «Пахвальнае слова святым Айцам слаўных постам».

Некалькі твораў мітрапаліта Рыгора вядомы нам толькі па загалоўках.

Мітрапаліт Рыгор, як заўважае гісторык Праваслаўнай Царквы, архіепіскап Макарый: «быў чалавекам глыбока адукаваным і начытаным. Ён грунтоўна ведаў Святое Пісанне і творы Айцоў Царквы, намагаўся іх наследаваць, асабліва Іаана Залатавуснага». Прытым неабходна дадаць, што ён выдатна развіў і ўзбагаціў лепшыя традыцыі прапаведніцкай творчасці на беларускіх і ўкраінскіх землях.

У 1418 г. мітрапаліт Рыгор у суправаджэнні чатырох епіскапаў і пышнай світы ўдзельнічаў у Канстанцкім саборы. Накіраваў яго туды Вітаўт у надзеі, што там будзе вырашана справа з'яднання Праваслаўнай Царквы з Каталіцкім Касцёлам. Аднак, гэтыя спадзяванні князя не збыліся, прытым Рыгор адмовіўся прыняць каталіцызм і прызнаць папу галавой Царквы, ён на саборы выступіў з палымяным словам у абарону Праваслаўя.

Мітрапаліт Рыгор пасля вяртання з сабору пераканаўся, што насуперак сваім словам князь Вітаўт пачынае перамовы з маскоўскім мітрапалітам Фоціем пра перадачу таму ўлады над беларускімі і ўкраінскімі епархіямі, затым згодна з пажаданнямі папы рымскага Марціна насаджае ў краіне каталіцызм, між іншым, заснаваў тады каталіцкія біскупствы у праваслаўных Луцку і Кіеве. Стомлены барацьбою і знеахвочаны няўдачамі мітрапаліт Рыгор, як сведчаць некаторыя гісторыкі, у 1420 г. патаемна пакінуў віленскую кафедру і, перааprануўшыся за звычайнага манаха, пад імем брата Гаўрыілы пасяліўся ў адным з манастыроў у Малдавіі і там прысвяціў сябе пісьменніцкай і асветніцкай дзейнасці.

Памёр мітрапаліт Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Вялікага княства Літоўска-Беларускага Рыгор Цамблак у 1452 г., на 88-м годзе жыцця.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# НАШЫ КАРАНІ

Мама ўцякла... ў Саколку

## ДЗВЕ ДЗЯЎЧЫНКІ

Жылі-былі дзве дзяўчынкі, Аксана і Анджэліка, блізняты. Нарадзіліся якраз на Купалле, 22 гады таму. Чужыя людзі іх гадавалі. Нікога на свеце не мелі, апрача сябе. Ужо дарослыя, рашылі знайсці сваіх бацькоў, сваякоў. Напісалі ў Дзіцячы фонд, да Уладзіміра Ліпскага.

„Звяртаемся да вас, бо ўжо не маем да каго. Куды мы ўжо не пісалі — усё безвынікова. Ведаем толькі адно — бацькі ад нас адракліся. Ведаем яшчэ, што ў нас ёсць старэйшы брат...".

Матуля, ці пазнаеш іх на здымку? Можа, ад цябе ўзялі яны такія прыгожыя вочы і губы, можа, іх светлы волас — зусім як твой? Больш за 20 гадоў ты іх кінула маленькімі, узяла толькі старэйшага, хлопчыка, і з'ехала за мяжу. Замуж выйшла — пэўна, з імі цябе не хацелі браць? Браце Аляксандр, табе ўжо будзе з 24 гады, у цябе ёсць ужо, пэўна, свая сям'я. Ці мама сказала табе, што ў цябе засталіся на Беларусі дзве маленькія сястрычкі? Адзінае, што вы ім пакінулі, гэта прозвішча і імёны бацькоў, Галены Віктараўны і Станіслава Рыгоравіча...

Чаму шукаюць цяпер дарослыя жанчыны сваякоў? Ці не трэба ім на дарогу ў дарослае жыццё, ім, выхаванкам халодных дзетдомаўскіх сценаў, раслінкам без каранёў, добрае слова ад блізкіх, парада ў цяжкую хвіліну, блаславенства маці? А ці чакаць цяпер іх бацькам шчырых абдымкаў? А, можа, сораму і адчужэння? Альбо не: прабачэння і спакойнага сумлення на старасць?

Твае дочкі, якія не спрабавалі ні кроплі матчынага малака і не спазналі твае пяшчоты, хочуць цябе хоць раз пабачыць, пані Галена!

... Спачатку глядзела іх бабуля. Але і яна пакінула. Здалі іх у дом для дашкольнікаў у Лідзе. Потым перавялі ў інтэрнат у Дзятлаве, а яшчэ пазней — у Смаргонь. Адна з дзяўчынак горш вучылася, і пасля трэцяга класа іх раздзялілі. Аксана вучылася ў Навагрудку, у Ваўкавыску. Цяпер, пасля вучылішча працуе будаўніком у Смаргоні. Анджэліка жыве і працуе ў Гародні.

Лісты ў Дзіцячы фонд пісалі па-руску. Не ведаюць, хто яны ёсць — палькі, рускія ці — беларускі. Раслінкі без каранёў...

Уладзімір Ліпскі, старшыня Дзіцячага фонду, надрукаваў іх просьбу знайсці блізкіх у „Знамени юности" (3 чэрвеня 1990 года). Дапамог ім фінансава, зацікавіў беларускай літаратурай. Дзяўчаты з радасцю дзякавалі за апеку, добрае слова, дапамогу. Далей шмат пішуць Уладзіміру Сцяпанавічу, інфармуюць пра свае справы.

Адазваліся іх сваякі ў Беларусі, запрасілі да сябе ў госці. Былі ў роднага дзядзькі, у траюрадных цётак. Дзяўчаты паведамляюць, што сваякі нядрэнныя, аднесліся да іх па-сямейнаму, з увагай, надавалі ім падарункаў. „Што ж ні кажы, — піша Анджэліка, — маем цяпер хаця ў каго пагасцяваць". Даведаліся, што іх маці жыве ў Саколцы на Беласточчыне, мае дачку і сына з другім мужам, што ў іх брата ёсць ужо свае дзеці...

Анджэліка спрабавала два разы ім напісаць, але адказу няма, ні ад брата, ні ад маці.

— Ці варта цяпер шукаць іх, пасля дваццаці пару гадоў? Хаця б убачыць, што яны за людзі... — разважае Аксана. — Брат, вядома, не вінаваты. Праўда, кожны па-рознаму мяркуе...

Адказу няма. А, можа, пані Галене і цяпер усё роўна? Дзеці ж жывыя, здаровыя, выраслі, не прапалі. Дзяржава ж на тое і ёсць, каб такія дзеці выйшлі „на людзей". А добрыя людзі знойдуцца дапамагчы ім і дабро пабачыць у свеце, пацешыць.

**МІРА ЛУКША**



*Анджэліка (з завіўкай) і Аксана з дачушкай Кацюшай.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Разгадай два сны. Адзін сніўся маёй хроснай пра мяне. Снілася ёй, што я капаў на сябе яму.

Другі сон сніўся мне, але падобны да папярэдняга. Ува сне я бачыў адну яму для нябожчыкаў. Яма была выкапана даўно, бо была парослая імхом. На дне раслі маленькія бярозкі. Навокал было трохі занядбана.

**Пеця**

Мая сястра ў Амерыцы. І сніцца мне, што яна вярнулася. Я гляджу і захапляюся яе валасамі — доўгія, густыя, прыгожы колер. А ў лісце, які прыслала яна мне, піша, што прыеха да яе знаёмая жанчына (якой яна афармляла запрашэнне, але знаёмая візы не атрымала і паехала ў Бельгію). Тая прасіла яе, каб памагла знайсці ёй работу. Сястры было сорамна, бо ў хаце быў балаган.

**Люся**

Сніцца, што я ляжу ў ложку. Да мяне пад коўдру пхаецца кошка з кацянятамі. Гэта кошка акацілася ў падвале маёй пляменніцы. У яе трое кацянят, а ў маім сне тая ж кошка толькі з двума кацянятамі.

**Марыя**

Пеця! Табе пагражае смяртэльная небяспека. Разглянься навокал і будзь асцярожны.

Люся! Ты атрымаеш нейкія добрыя весткі ад сястры. У яе нешта пераменіцца на лепшае. Будзе мець больш грошай!

Марыя! Цябе, на жаль, не магу занадта пацешыць. Будзе нейкая хвароба (мо нервовая нават), выкліканая фальшам, няшчырасцю блізкіх табе людзей.

**Астрон**

## СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ПОЛЬШЧЫ

*працяг са стар. 1*

індывідуальнага выбару не могуць выцякаць ніякія паслядоўнасці. Нацыянальным меншасцям трактат гарантуе свабоду ўжывання роднай мовы як у прыватным, так і ў публічным жыцці, доступ да інфармацыі на роднай мове ды права ўжываць імёны і прозвішчы ў гучанні, згодным з нормамі роднай мовы. Аднак, нікому нельга забываць пра сваё грамадзянства і ўсе паслядоўнасці гэтага факту.

У першы дзень візіту, апрача размовы «ў чатыры вочы» з прэзідэнтам Лехам Валэнсам, Станіслаў Шушкевіч спаткаўся таксама з маршалкам Сейма Веславам Хжаноўскім, прэм'ер-міністрам Вальдэмарам Паўлякам ды міністрамі замежных спраў і супрацоўніцтва з замежжам. Уладыка Філарэт сустрэўся з прымасам Польшчы Юзэфам Глемпам і галавою Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапалітам Васілём.

На другі дзень беларуская дэлегацыя падалася ў Кракаў і Асвенцім. У Кракаве спадар Шушкевіч сустрэўся з прафесарамі Ягелонскага універсітэта, а ў Асвенціме наведаў месца, дзе падчас II сусветнай вайны знаходзіўся самы вялікі гітлераўскі лагер смерці. Увечары, у Варшаве, адбылася прэс-канферэнцыя і ўрачыстае адкрыццё пасольства.

Журналістам на прэс-канферэнцыі С. Шушкевіч сказаў, што Беларусь з увагай прыглядаецца да дасягненняў Польшчы ў пераходзе да дэмакратыі і рыначнай сістэмы. Пастараецца абмінуць памылкі, перад якімі перасцерагаў і Лех Валэнса. Супрацоўніцтва між Польшчай і Беларуссю можа стаць важным фактарам у стварэнні супольнага агульнаеўрапейскага дому, да чаго і павінны імкнуцца ўсе новыя дэмакратыі. Не павінны затрымлівацца на паўсродках, як хаця б рэгіянальныя ўтварэнні тыпу Mitteleuropa, - зазначыў міністр Пётр Краўчанка, прысутны таксама на прэс-канферэнцыі.



*На адкрыцці беларускага пасольства – Станіслаў Шушкевіч і Кшыштоф Скубішэўскі.*

Беларускае пасольства ў Варшаве было адчынена 24 чэрвеня, а гадзіне 19.30. Надзвычайным і паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Польскую Рэчыпаспалітую стаў Уладзімір Сянько. Хаця ўжо назначаны беларускія паслы ў ААН, Вялікабрытанію і Нямеччыну, але варшаўскае пасольства з'яўляецца першым дзейсным, са сваёй сядзібай. Адначасна з гэтым фактам ранг пасольства набыла польскае консульства ў Менску. Працягам развіцця дыпламатычных зносін будзе адкрыццё консульстваў: беларускага ў Гдыні і польскага ў Гародні, а ў далейшым плане, адпаведна, у Беластоку і Бярэсці.

Трэці дзень візіту - гэта была пабыўка на Беласточчыне. Пасля снедання ў беластоцкага ваяводы дэлегацыя наведала Супрасль. У



*Польскія і беларускія сцягі перад прэс-цэнтрам у Варшаве.*

манастырскім комплексе вакол Благавешчанскай царквы - у адбудове - архіепіскап Сава, вітаючы гасцей, сказаў: «Гэта святое месца для тутэйшага беларускага народа. Спадар прэзідэнт, прашу памятаць, што нацыянальная свядомасць у Польшчы захавалася дзякуючы Праваслаўнай царкве». Ахвяруючы кніжныя падарункі Станіславу Шушкевічу і мітрапаліту Філарэту, архіепіскап прасіў прывітаць шматпакутны беларускі народ. Сваё кароткае выступленне закончыў словамі: «Жыве Беларусь!»

Надзвычай урачыстым было наведанне Гайнаўкі. Разам з уладамі горада гасцей віталі: у Музеі беларускай культуры К. Майсеня і ў саборы св. Тройцы а. А. Дзевятоўскі. У абодвух месцах сабралася шмат гайнаўлян. У царкве, у гонар гасцей, кароткі, але надзвычай цудоўны канцэрт даў мясцовы прыхадскі хор пад дырэкцыяй а. Міхала Негярэвіча. Рэлігійны гімн «Магутны Божа» ўсе слухалі стоячы. Узрушаны Станіслаў Шушкевіч не мог паўстрымаць слязы ў гэты момант. Адзіным промахам гаспадароў у Гайнаўцы было тое, што не заінсталявалі мікрафонаў навонкі царквы. Слова старшыні не дайшло да сабраных там людзей, за выключэннем тых, хто стаяў вельмі блізка.

З Гайнаўкі дэлегацыя пераехала ў Бельск, дзе адбылася намнога скрамнейшая сустрэча ў Ліцэі імя Б. Тарашкевіча. Удзельнічалі ў ёй настаўнікі і дырэктары Беларускага ліцэя і Пачатковай школы н-р 3. Гутарка ішла пра становішча беларускага школьніцтва ў Польшчы.

Затым калона машын падалася назад у Беласток, дзе ў сядзібе Ваяводскай управы была запланавана чарговая сустрэча.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота аўтара**

## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ У БЕЛАСТОКУ

26 чэрвеня старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч сустрэўся ў канферэнцыйнай зале Ваяводскай управы ў Беластоку з прадстаўніцтвам беларускай меншасці. У сустрэчы прысутнічалі таксама міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка і Васіль Быкаў.

Спачатку госці паінфармавалі сабраных пра ход іхняга візіту ў Польшчу, а пазней адказвалі на пытанні. Быў гэта першы візіт, калі кіраўнік беларускай дзяржавы сустрэўся з беларусамі Беласточчыны, а гэтым самым прызнаў існаванне гэтай меншасці.

Усіх прывітаў Станіслаў Шушкевіч, які ў кароткіх словах падзяліўся сваімі ўражаннямі ад пабачанага на Беласточчыне. Пасля яго слова ўзяў Васіль Быкаў. Адною з мэтаў місіі беларускага ўрадавага прадстаўніцтва, гаварыў ён, было азнаямленне з жыццём беларусаў Беласточчыны. Лёс кожнай меншасці няпросты - праўда з універсальных. Уся мудрасць суіснавання заключаецца ў тым, каб знайсці аптымальны варыянт - варыянт, які захоўвае як інтарэсы дзяржавы, так і інтарэсы меншасці. Вельмі дрэнна сталася, што беларуская дзяржава апынулася ў катастрафічным эканамічным становішчы, бо гэта абмяжоўвае і магчымасці дапамогі меншасці ў суседняй дзяржаве. Але неяк трэба з гэтага выходзіць - самае галоўнае тут: захаваць культурную самабытнасць.

Візіт старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі ў Польшчу, сказаў міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, у кантэксце падзей у Еўропе, выходзіць па-за межы двухбаковых адносін. З'явілася магчымасць паказаць Еўропе ўзор цывілізаваных і талерантных адносін. Галоўны вынік візіту старшыні Вярхоўнага Савета - гэта падпісанне палітычнага трактата аб добрасуседстве, сяброўстве і партнёрстве. Трактат гэты - кульмінацыя некалькіх месяцаў беларуска-польскіх перамоў.

Дыскусію запачаткаваў Мікалай Тарасевіч - сябар Станіслава Шушкевіча з універсітэта. Запачаткаваў яе моцным акцэнтам, бо стаў даказваць, што горад Вільня не літоўскі і не польскі, а беларускі, менавіта, і Беларусі павінен належыць. Станіслаў Шушкевіч гэтаму мілітарызму даў рашучы адпор. Беларусь стаіць на грунце недатыкальнасці межаў, палітыкі павінны так працаваць, каб беларус у Польшчы адчуваў сябе беларусам, а паляк у Беларусі палякам. Усе пытанні трэба так вырашаць, каб не пралілася ніводная кропля крыві. Калі такое адбывалася ў мінулым, дык палітыкі тады, няйначай, дрэнна працавалі галавою. Цяпер такое не адбудзецца. Словы Станіслава Шушкевіча зала прыняла бурлівымі воплескамі.

Мікалай Гайдук звярнуў увагу старшыні Вярхоўнага Савета на цяжкасці ў набыванні беларускіх газет і кніг на Беласточчыне. У застойны час, канстатаваў Мікалай Гайдук, не было такіх цяжкасцяў, як цяпер. Іншая



*На сустрэчы з беларускімі асяроддзямі ў Беластоку: Пётр Краўчанка (за ім Уладзіслаў Праховіч з Беластоцкага радыё), Станіслаў Шушкевіч і Васіль Быкаў.*

 



*Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка і Васіль Быкаў перад Ваяводскай управай у Беластоку.*

справа гэта радыё і тэлебачанне - беларусы Беласточчыны не могуць прымаць ні радыё-, ні тэлеперадачы з Менска. Станіслаў Шушкевіч адказаў, што і ў самым Менску не надта з беларускай кнігай - не заўсёды яна ўспрымальная адукаваным чалавекам. Што датычыць радыё і тэлебачання, дык цяжка пакуль пераўтварыць старую структуру, але беларускі ўрад зробіць усё, каб паскорыць гэты працэс і каб беларусы Беласточчыны змаглі слухаць беларускае радыё і глядзець беларускае тэлебачанне. Справа гэтая тым больш важная таму, што маскоўская інфармацыя пра дзеянні беларускага ўрада часта не адпавядае рэальнасці.

Сяргей Мартынюк гаварыў пра гандлёвыя кантракты фірмы «Пронар» і пра нявыкарыстаны пагранічны пераходны пункт у Семяноўцы. Станіслаў Шушкевіч адказаў, што пагранічнымі пунктамі займаюцца польскія і беларускія спецыялісты - адно, што ён можа зрабіць у гэтай справе: звярнуць увагу гэтых жа спецыялістаў на пераходны пункт Семяноўка-Свіслач.

Ян Сычэўскі з Беларускага грамадска-культурнага таварыства звярнуў увагу, што некаторыя пытанні ў польска-беларускіх дачыненнях можна было б вырашыць карысней для беларускай меншасці ў Польшчы. Справа перад усім у фінансах. Калі разглядаць культуру ў рынкавых адносінах, пагражае ёй заняпад. БГКТ прабавала розных форм бізнесу, але бізнес найчасцей адрываецца ад культуры ды існуе самастойна. Польская і беларуская меншасныя культуры павінны існаваць на парытэтах /палякі ў Беларусі, прыкладам, плацяць за сядзібы сваіх культурных устаноў сімвалічнае - 10 рублёў у месяц/.

Лёс кожнай нацыянальнай меншасці, сказаў на сустрэчы са старшынёю Вярхоўнага Савета Сакрат Яновіч, залежыць ад адносін да яе дзяржавы, у якой тая меншасць жыве і ад адносін дзяржавы-маткі. Беларусам патрэбны ў Беластоку цэнтр беларускай культуры як урадавая ўстанова. Згадкі пра такі цэнтр у польска-беларускіх перамовах ужо былі. Дзеля гэтай ініцыятывы аднак патрэбная зацікаўленасць і Менска, і Варшавы. Станіслаў Шушкевіч сказаў, што справа цэнтра беларускай культуры - гэта справа канкрэтнага ўрадавага пагаднення. Дзеля такіх пагадненняў трэба і працаваць.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**







**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

* * *

Людзі ветру і полымя клічуць на пляцы народ,
людзі бізнэсу латаюць дзіркі штогод,
людзі мутнай вады баламуцяць і круцяць...

Людзі кніжак артыкулы пішуць штодзень,
людзі зброі заўсёды хаваюцца ў цень,
людзі сьмерці нікога ня любяць...

Людзі памяці зьнішчылі болем сябе,
людзі поля зьнікаюць у вечнай сяўбе,
людзі чэргаў ня маюць хвіліны...

Людзі горкага часу і горкіх надзей,
людзі сьвету і краю зусім безь людзей,
людзі нашыя з нашай Айчыны...

* * *

У вёсцы клопатна. У горадзе няёмка.
Кругом ня так. Надзейна і надоўга
ня так, ня тое, не адтуль, ня там.

Ня так, як хочацца. Ня тое, што павінна.
Знаёмая агідная карціна -
чарга бясконцая, а на канцы ты сам.

Надзеі згубленыя і пошукі прайграны,
а хмурны жнівень цягнецца, як п'яны
па бруду вуліцаў - далёка да зімы...

Бывай, Айчына... А куды паеду?
Ўжо цэлы сьвет цягаецца па сьвету -
астатнія, як і заўсёды, мы.

# РЭХА ВІЗІТУ

Раніцай 23 чэрвеня лідэрамі Беларусі і Польшчы падпісаны першы ў летапісе двух народаў Дагавор аб добрасуседстве - дакумент вялікага палітычнага, эканамічнага і гуманітарнага гучання, дзеянне якога разлічана на пятнаццаць гадоў. Падпісаўшыя яго бакі згадзіліся будаваць свае адносіны на прынцыпах узаемнай павагі, добрасуседства і партнёрства, пацвердзілі існуючыя паміж імі граніцы, абавязаліся садзейнічаць працэсу раззбраення, адмовіліся ад прымянення сілы або пагрозы яе прымянення. Беларусь і Польшча дамовіліся праводзіць кансультацыі па пытаннях міжнароднай бяспекі, а таксама абароны. Яны будуць развіваць рэгулярныя кантакты паміж органамі дзяржаўнай улады і кіравання, прадугледзелі сустрэчы і кансультацыі на вышэйшым узроўні, а таксама міністраў замежных спраў. Дзяржавы дамовіліся садзейнічаць пашырэнню кантактаў паміж грамадзянамі, палітычнымі партыямі, прафсаюзамі, іншымі грамадскімі арганізацыямі і сродкамі масавай інфармацыі. У дагаворы замацавана абавязацельства захоўваць міжнародныя прынцыпы і стандарты, якія датычаць абароны правоў нацыянальных меншасцей. Будзе павялічана колькасць пагранічных пераходаў, праведзена іх мадэрнізацыя ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі і г. д. /.../

Кіраўніцтва рэспублікі сур'ёзна вывучае падыходы да стварэння на беларуска-польскім пагранічны свабодных эканамічных зон і іншых нетрадыцыйных форм супрацоўніцтва. Адзін з прыкладаў - пагадненне аб выкарыстанні порта Гдыня ў якасці беларускага акна ў сусветны гандаль. Перспектыўнымі ўяўляюцца і праграмы супрацоўніцтва Брэсцкай і Гродзенскай абласцей з Беластоцкім і Бяла-Падляскім ваяводствамі. Наспела пытанне і аб пашырэнні супрацоўніцтва ў галіне інфармацыі і кнігавыдання.

**/БЕЛТА/**

* * *

Станіслаў Шушкевіч адкрыў беларускае пасольства ў Варшаве. Мяркуецца, што беларускія консульствы будуць створаны ў Гдыні і Беластоку. Як падкрэсліў у часе прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, гарады для размяшчэння консульстваў выбраны, сыходзячы ў першым выпадку з эканамічных інтарэсаў, у другім - з палітычных. У часе візіту беларуская дэлегацыя абмеркавала магчымасць выкарыстання гдыньскага порта і нават пабудовы там беларускага порта. Гдыня найхутчэй стане галаўнейшым портам прыпіскі будучага беларускага гандлёвага флоту. Дарэчы, на нарадзе кіраўнікоў урадаў СНД у пятніцу /26 чэрвеня - рэд./ гэтаксама ўзнімалася пытанне пра флот, а менавіта пра падзел неваеннага флоту былога Саюза, на чым настойвала беларуская дэлегацыя. Аднак канкрэтнага рашэння па праблеме прынята не было.

Удзельнікі сустрэчы абмежаваліся стварэннем спецыяльнай групы, якая мусіць распрацаваць праект дакументаў па гэтай праблеме. Тым часам Станіслаў Шушкевіч, які, відаць, чакаў падобнага выніку спробы раздзелу былога савецкага гандлёвага флоту, падкрэсліў на прэсавай канферэнцыі, што перспектывы беларускага гандлёвага судаходства звязвае не з атрыманнем у спадчыну часткі састарэлага парку СССР, а з пабудовай новага флоту рэспублікі. Гэткім падыходам надзвычайна зацікавіўся польскі бок, для якога атрыманне беларускага заказу стане сур'ёзнай дапамогай у вырашэнні праблемы беспрацоўя на гданьскіх верфях.

Натуральна, што лідэры двух рэспублік не абмінулі становішча на беларуска-польскай мяжы, якая фактычна застаецца савецка-, ці лепш эсэндоўска-польскай. У справе вырашэння гэтай праблемы Станіслаў Шушкевіч сказаў, што рэспубліка не пойдзе на парушэнне двухбаковых дагавораў з партнёрамі па СНД, якія датычацца рэжыму ўезду на Беларусь. Аднак у найбліжэйшым часе будуць створаны тры ўзмежкавыя пераходы, спецыяльна для грамадзянаў рэспублікі.

Адным з галоўных вынікаў візіту стала наведанне Беластоцкага ваяводства, дзе жыве беларуская меншасць. Вырашаючы праблемы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, кіраўніцтва рэспублікі акрамя іншага прадэманстравала калегам па садружнасці прыклад цывілізаванага падыходу да пытання. З двух пунктаў беларуска-польскіх дачыненняў, якія прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса ўзяў пад асабісты патранат, першы датычыцца ўрэгулявання становішча на мяжы, другі - адраджэння беларускага манастырскага комплексу ў Супраслі. Пётр Краўчанка паведаміў, што ўрад рэспублікі шукае спосабу паскорыць атрыманне беларускай меншасцю абяцанага кабінетам Яна Альшэўскага 2,5 мільярда злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Як адзін з магчымых варыянтаў ён прапанаваў пакрыць суму памеру 1 мільярда злотых праз выдзяленне фінансавай дапамогі арганізацыям польскай меншасці на Беларусі. Пры гэтым Станіслаў Шушкевіч заявіў, што дэлегацыя заняла жорсткую пазіцыю ў пытаннях палітычнай прапаганды, якая вядзецца некаторымі польскімі ксяндзамі на заходніх тэрыторыях Беларусі.

**/Радыё «Свабода»/**



 

# ПОЛЬСКА – БЕЛАРУСКІ ТРАКТАТ

**Падаем да ведама чытачоў некаторыя артыкулы польска-беларускага трактата, якія датычаць мірнага суіснавання абедзвюх дзяржаў, аховы правоў нацыянальных меншасцяў, гаспадарчых і культурных кантактаў ды супрацоўніцтва. Трактат, адзначым дзеля фармальнасці, уступае ў юрыдычную моц пасля яго ратыфікацыі парламентамі Польшчы і Беларусі.**

## TRAKTAT

**między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy**

Artykuł 1

Umawiające się Strony kształtują swoje stosunki jako zaprzyjaźnione państwa w duchu wzajemnego szacunku, dobrosąsiedztwa i partnerstwa. Kierują się zasadami suwerennej równości, niestosowania siły lub groźby jej użycia, nienaruszalności granic, integralności terytorialnej, pokojowego rozstrzygania sporów, nieingerencji w sprawy wewnętrzne, poszanowania praw człowieka i podstawowych swobód oraz prawa narodów do samostanowienia.

Artykuł 2

Umawiające się Strony potwierdzają istniejącą między nimi granicę, uważają tę granicę za nienaruszalną i stwierdzają, że nie mają i nie będą mieć w przyszłości wobec siebie żadnych roszczeń terytorialnych.

Artykuł 6

Umawiające się Strony zobowiązują się, zgodnie z Kartą Narodów Zjednoczonych i odpowiednimi dokumentami Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie, do rozstrzygania sporów mogących powstać między nimi wyłącznie środkami pokojowymi.

Artykuł 7

1. Umawiające się Strony wyrzekają się użycia siły lub groźby jej użycia we wzajemnych stosunkach.

2. Żadna z Umawiających się Stron nie pozwoli, aby jej terytorium było wykorzystywane przez państwo trzecie lub państwa trzecie w celach zbrojnej agresji lub wrogiej działalności przeciwko drugiej Umawiającej się Stronie.

3. W razie, gdyby państwo trzecie lub państwa trzecie dokonały napaści zbrojnej na jedną z Umawiających się Stron, druga umawiająca się Strona zobowiązuje się do nieudzielania pomocy militarnej ani jakiegokolwiek poparcia takiemu państwu lub państwom przez cały czas trwania konfliktu zbrojnego oraz będzie działać na rzecz uregulowania tego konfliktu zgodnie z zasadami Karty Narodów Zjednoczonych i dokumentami Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie.

Artykuł 10

1. Umawiające się Strony będą rozwijać regularne kontakty między organami władzy i administracji państwowej. Przywiązują one szczególne znaczenie do wzajemnych stosunków międzyparlamentarnych.

2. Spotkania i konsultacje na najwyższym szczeblu będą dokonywane w celu zapewnienia rozwoju stosunków dwustronnych i zharmonizowania stanowisk w kwestiach będących przedmiotem wspólnego zainteresowania.

3. Ministrowie Spraw Zagranicznych będą odbywać regularne konsultacje przynajmniej raz w roku.

4. W zależności od potrzeb i na podstawie wzajemnego porozumienia Umawiające się Strony mogą tworzyć odpowiednie komisje mieszane.

Artykuł 11

1. Umawiające się Strony będą sprzyjać ustanowieniu i rozwojowi bezpośrednich kontaktów i współpracy między regionami, miastami i innymi jednostkami administracyjno-terytorialnymi Rzeczypospolitej Polskiej i Republiki Białoruś. Szczególna uwaga będzie poświęcona współpracy na obszarach przygranicznych. W tych sprawach zostaną zawarte odrębne porozumienia oraz zostanie utworzona komisja międzyrządowa do spraw współpracy regionalnej i przygranicznej.

2. Umawiające się Strony zwiększą liczbę przejść granicznych, dokonają ich modernizacji zgodnie ze standardami międzynarodowymi oraz usprawnią kontrolę graniczną i celną, w tym podejmą stosowne kroki w celu uproszczenia postępowania w sprawach kontroli granicznej i celnej obywateli obu państw.

Artykuł 14

1. Umawiające się Strony potwierdzają, że osoby należące do mniejszości polskiej w Republice Białoruś oraz mniejszości białoruskiej w Rzeczypospolitej Polskiej mają prawo indywidualnie lub wespół z innymi członkami swojej grupy, do swobodnego zachowania, rozwijania i wyrażania swojej tożsamości etnicznej, kulturowej, językowej i religijnej, bez jakiejkolwiek dyskryminacji i w warunkach pełnej równości wobec prawa.

2. Umawiające się Strony potwierdzają, że przynależność do mniejszości narodowej jest sprawą indywidualnego wyboru dokonywanego przez osoby i że nie mogą z tego wynikać dla niej żadne negatywne następstwa.

Artykuł 15

Umawiające się Strony gwarantują, że osoby wymienione w artykule 14 mają w szczególności prawo, indywidualnie lub wespół z innymi członkami swej grupy, do:

- swobodnego posługiwania się językiem ojczystym w życiu prywatnym i publicznym, dostępu do informacji w tym języku, jej rozpowszechniania i wymiany, a także używania swych imion i nazwisk w brzmieniu przyjętym dla języka ojczystego;
- zakładania i utrzymywania własnych instytucji, organizacji lub stowarzyszeń oświatowych, kulturalnych i innych, które mogą ubiegać się o dobrowolną pomoc finansową lub inną jak również o pomoc państwową, zgodnie z prawem krajowym, korzystać z dostępu do środków masowego przekazu, a także uczestniczyć w działalności międzynarodowych organizacji pozarządowych;
- wyznawania i praktykowania swej religii, w tym nabywania i wykorzystywania materiałów religijnych oraz prowadzenia oświatowej działalności religijnej w języku ojczystym;
- ustanawiania i utrzymywania niezakłóconych kontaktów między sobą na terytorium swego państwa, jak również kontaktów poprzez granice z obywatelami innych państw, z którymi łączą je wspólne pochodzenie etniczne lub narodowe, dziedzictwo kulturalne lub przekonania religijne;
- korzystania ze środków prawnych, przewidzianych ustawodawstwem wewnętrznym państwa zamieszkania dla urzeczywistnienia i ochrony swych praw.

Artykuł 16

1. Umawiające się Strony będą rozwijać konstruktywną współpracę w zakresie ochrony praw osób należących do mniejszości narodowych, traktując je jako czynnik wzmocnienia wzajemnego zrozumienia i dobrosąsiedzkich stosunków między narodami polskim i białoruskim.

2. Umawiające się Strony w trakcie realizacji rozwoju regionalnego będą uwzględniać społeczne i ekonomiczne interesy osób wymienionych w artykule 14 oraz ich organizacji lub stowarzyszeń.

3. Umawiające się Strony będą starać się zapewnić osobom, o których mowa w artykule 14, odpowiednie możliwości nauczania ich języka ojczystego lub nauczania w tym języku w placówkach oświatowych, a także, gdzie jest to możliwe i konieczne, posługiwania się językiem ojczystym wobec władz publicznych. W programach nauczania placówek oświatowych, do których uczęszczają wyżej wymienione osoby, będzie uwzględniona w szerszym zakresie historia i kultura mniejszości narodowych.

4. Umawiające się Strony będą szanować prawo osób, o których mowa w artykule 14, do uczestnictwa w sprawach publicznych, w szczególności dotyczących ochrony i umacniania ich tożsamości, a także w razie potrzeby przeprowadzać konsultacje z organizacjami lub stowarzyszeniami tych osób.

Artykuł 17

Umawiające się Strony są zgodne co do tego, że osoby, o których mowa w artykule 14, powinny przestrzegać ustawodawstwa państwa swego zamieszkania.

Artykuł 18

1. Umawiające się Strony będą sprzyjać wzajemnie korzystnej współpracy gospodarczej, dążąc do zachowania i rozwoju tradycyjnych powiązań ekonomicznych i handlowych, z uwzględnieniem potrzeb i realnych możliwości obu Państw, w oparciu o zasady gospodarki rynkowej.

2. Umawiające się Strony będą tworzyć dogodne warunki ekonomiczne , finansowe, podatkowe i prawne dla działalności gospodarczej, w tym rozwoju przedsiębiorczości. Będą popierać i ochraniać inwestycje, przestrzegać norm prawa autorskiego i patentowego, a także ułatwiać przepływ przez granice towarów, usług, siły roboczej i kapitałów.

3. Umawiające się Strony będą ułatwiać rozwój bezpośredniej współpracy przedsiębiorstw państwowych, prywatnych oraz innych podmiotów gospodarczych, a także dokonywać wymiany doświadczeń oraz udzielać sobie pomocy szkoleniowej i innej w procesie tworzenia gospodarki rynkowej.

Artykuł 22

1. Nawiązując do pozytywnych wartości wielowiekowego dziedzictwa kulturowego narodów polskiego i białoruskiego i ich wkładu do cywilizacji europejskiej, Umawiające się Strony będą sprzyjać dalszej współpracy w dziedzinie kultury, nauki, oświaty i informacji. Wezmą one pod uwagę postanownienia Dokumentu krakowskiego sympozjum Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie w sprawie europejskiego dziedzictwa kulturalnego.

2. W celu wzajemnego upowszechnienia wiedzy o narodowym dorobku w dziedzinie kultury, nauki, oświaty i informacji każda z Umawiających się Stron powoła ośrodki kulturalne na terytorium drugiej Umawiającej się Strony, które będą korzystać z szerokiego poparcia państwa siedziby.

3. Umawiające się Strony będą współdziałać w dziedzinie środków masowego przekazu, a także ułatwiać rozpowszechnianie książek, prasy i przekazów audiowizualnych drugiej Umawiającej się Strony.

4. Umawiające się Strony będą rozszerzać wymianę kulturalną w różnych formach, sprzyjać współpracy między instytucjami i organizacjami kulturalnymi, w tym związkami twórczymi, na szczeblu ogólnokrajowym, regionalnym i lokalnym, a także popierać bezpośrednie kontakty między twórcami kultury i sztuki.

5. Każda z Umawiających się Stron będzie zapewniać należytą ochronę prawną, materialną i inną znajdującym się na jej terytorium wartościom, zabytkom i obiektom związanym z dziedzictwem kulturalnym i historycznym drugiej Umawiającej się Strony lub wspólnym, jak również będzie działać na rzecz ich ujawnienia , zachowania, scalania i wprowadzania do obiegu kulturalnego, w tym tworzenia swobodnego dostępu do nich.

6. Zgodnie z międzynarodowymi normami i standardami a także na podstawie dwustronnych porozumień, Umawiające się Strony podejmą i będą wspierać działania zmierzające do ujawnienia i zwrotu dóbr kulturalnych i historycznych, które zaginęły, zostały bezprawnie wywiezione lub w inny nielegalny sposób znalazły się na terytorium drugiej Umawiającej się Strony.

7. Umawiające się Strony będą rozszerzać współdziałanie w dziedzinie nauki, techniki i oświaty. Będą sprzyjać rozwojowi współpracy szkół, wyższych uczelni i innych instytucji naukowych, między innymi w zakresie wymiany studentów, pracowników naukowych i stypendystów, a także popierać nauczanie języka polskiego w Republice Białoruś oraz języka białoruskiego w Rzeczypospolitej Polskiej.

Artykuł 28

Niniejszy Traktat zostaje zawarty na okres 15 lat. Po tym terminie jego moc obowiązująca ulega automatycznie każdorazowo przedłużeniu na okres pięcioletni, jeżeli żadna z Umawiających się Stron nie wypowie go w drodze notyfikacji na rok przed upływem danego okresu.

Artykuł 29

Niniejszy Traktat, po jego wejściu w życie, zostanie zarejestrowany w Sekretariacie Organizacji Narodów Zjednoczonych zgodnie z artykułem 102 Karty Narodów Zjednoczonych.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь назначыў Пятра Садоўскага Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў ФРГ, а **Уладзіміра Сянько** — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Польшчы. (...)

**Уладзімір Сянько.** Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Вішкавічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Беларус. Закончыў станкабудаўнічы тэхнікум, служыў у арміі, затым вучыўся ў Маскоўскім інстытуце міжнародных зносін. На працягу многіх гадоў працаваў у пасольстве былога СССР у Польшчы. З 1991 года — намеснік міністра замежных спраў Беларусі.

Валодае польскай, англійскай і французскай мовамі.

* * *

У год святкавання 1000-гадовага юбілею Праваслаўнай царквы на Беларусі зноў аднаўленая Гродзенская епархія Беларускага экзархата распачала выдаванне **„Гродзенскіх епархіяльных ведамасцей”**, працягваючы традыцыі нашых продкаў. Духоўна-асветніцкая газета будзе выходзіць штомесячна і распаўсюджвацца ў цэрквах. Так што астаецца толькі павіншаваць і веруючых, і няверуючых з новым выданнем.

* * *

На дзяржаўнай граніцы паблізу Брэста прадухілены вываз кантрабанды на суму каля 600 тысяч рублёў. У злачынны камерцыйны абарот у апошні час тут уцягваюцца сотні кілаграмаў, нават тоны каляровых металаў, ртуці, медзі, рэдказямельных элементаў, натуральныя прэпараты.

*(З газет „Звязда” і „7 дней”)*

## НАША ПОШТА

**Шаноўная рэдакцыя!**

Лета ў разгары, а я пасля вяртання з санаторыя не маю дзе паехаць на адпачынак. Лекары ўсе згодна раяць мне памяняць клімат. Апошнія дванаццаць гадоў я ездзіў у Сочы, на Чорнае мора. Заўсёды браў з сабою „Ніву”. Цяпер паехаць там на адпачынак складаная справа.

Звяртаюся тады да Вас за дапамогай. Я ахвотны правесці адпачынак „пад грушай”, пабыць з месяц на вёсцы, уключыцца ў рытм вясковага жыцця, дапамагаць пры сенакосах і жніве. Таму вельмі прашу дапамагчы мне знайсці на Беласточчыне гаспадара, які згадзіўся б запрасіць мяне на адпачынак. Я беларус і найлепш сябе адчуваю сярод сваіх.

**Яўген Грамыка, Эльбланг**

**Ад рэдакцыі:** Друкуем ліст з надзеяй, што нашы чытачы дапамогуць сп. Я. Грамыку правесці адпачынак „пад грушай”. Пісаць яму трэба на адрас: *Eugeniusz Gromyko, 82-300 Elbląg, ul. Lubraniecka 21/IV/15, tel. 47404.*

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### З РУСКАЙ КУХНІ

**Варэнне з маліны, ажыны ці суніц**

Прадукты: 1 кг свежых сухіх суніц, маліны ці ажыны, 1250 г цукру, паўлітра вады.

З цукру і вады закіпяціць на невялікім агні сіроп, часта і інтэнсіўна памешваючы. У часе кіпення дакладна знімаць пену.

Перабраныя ягады ўкідаць пакрысе ў гарачы сіроп. Закіпяціць і адразу зняць з агню. Трымаць так 24 гадзіны.

Закіпяціць яшчэ раз і дакладна зняць пену. Дасмажваць на невялікім агні яшчэ 45 мінут, знімаючы пену кожны раз, як толькі яна паяўляецца на паверхні.

Гатовае варэнне пералажыць у слоікі.

Можна яго есці, запіваючы чаем; можна рабіць з ім рознае пячэнне, бабачкі. Калі няма свежых ягад, можна з яго рабіць кісель.

**Кулябяка з капустай і грыбамі**

Прадукты: 750 г дрожджавага цеста, 1 яйка; на фарш: 1 галоўка салодкай, белай капусты, 2 вялікія цыбуліны, 5 сушаных баравікоў, 4 вараныя яйкі, 1 лыжка масла, соль, перац.

Прапорцыя для 4—6 чалавек. Падрыхтоўваецца страва 5 гадзін, а пячэцца 55 мінут.

Грыбы мачыць на працягу 25 мінут у летняй вадзе, пасля чаго зварыць у той жа вадзе. Адцадзіць, астудзіць і дробна пасячы.

З разрэзанага напалавінку качана капусты выняць сярэдзіну. Капусту зварыць у вялікай колькасці пасоленага кіпетню (каля 30 мінут). Зварыўшы, выціснуць і дробна пасячы.

Абабраць яйкі і таксама дробна пасячы. Нарэзаць дробна ачышчаную цыбулю і смажыць яе на працягу 5 мінут.

Да капусты дадаць грыбы, яйкі, падсмажаную цыбулю, соль і перац. Усё вельмі добра перамяшаць.

Са 150 г вырасшага дрожджавага цеста зрабіць тоненькія валікі. Рэшту цеста раскатаць на прамавугольнік крыху даўжэйшы, чым бляшка, а шырынёю 25 см. Таўшчыня цеста павінна быць каля 1 см. На сярэдзіну палажыць уздоўж вузкую паласу фаршу так, каб не даходзіла яна да карацейшых краёў бліна.

Даўжэйшыя бакі цеста спалучыць дакладна зверху. Карацейшыя, у частцы, не напоўненай фаршам, падгарнуць уверх. Кулябяку палажыць на бляшку з пергаментнай паперай, змазанай тлушчам, месцам спалучэння цеста ўніз. Верх аздобіць валікамі з цеста.

Змазаць кулябяку разбоўтаным яйкам і пячы ў нагрэтай да тэмпературы 230 градусаў духоўцы на працягу 50—55 мінут. Падаваць з растопленым маслам.

**ГАСПАДЫНЯ**

Зорка
Старонка для дзяцей

# ЛІПЕНЬ

Лета ў разгары. Вясковыя вуліцы поўняцца водарам квітучай ліпы. Нездарма ж і месяц гэты называецца «ліпень». Вакол маленькіх белых кветачак гудуць тысячы пчол. Ліпавы мёд - каштоўны лекавы прадукт. Цяпер самы час рыхтаваць на зіму кветкі ліпы. Рабіць гэта патрэбна ў самым пачатку цвіцення і абавязкова ў сухое надвор'е. Здаўна ў народзе выкарыстоўваюць ліпавую гарбату для лячэння розных прастудных захворванняў.

Пагодлівымі днямі шмат людзей на лугах. На сенажаці выходзяць і старыя, і малыя, сушаць духмянае сена. А на палях паспявае ўжо збажына. Адным словам, пара для вяскоўцаў гарачая - праца ад цямна да цямна.

Ну, а тыя, хто мае досыць вольнага часу, могуць смела адпраўляцца ў лес, з пустымі рукамі не вернецца ніхто. Там і суніцы, і чарніцы, і маліна, і грыбы.

Калі на хвілінку прысесці дзе-небудзь на лясной палянцы і ўважліва паглядзець навокал, можна заўважыць, як змяніліся клопаты лясных жыхароў. З мурашнікаў выпаўзаюць крылатыя мурашкі і пакідаюць свае месца жыхарства. Потым маладыя самкі апусцяцца дзе-небудзь на зямлю, абгрызуць ужо не патрэбныя ім крылы і пачнуць будаваць новыя мурашнікі. Зрабіўшы прыпынак ля зарасніку арэшніку, можна стаць сведкам незразумелага шамацення галін, нават калі няма ніводнага подыху ветра. Гэта шныраць вавёркі. Часам іх збіраецца ў адным месцы па дзесятку і больш. Яны ўжо прыглядаюцца да арэхаў, пара рабіць запасы на зіму.

Магчыма, здарыцца і так, што нічога гэтага не ўбачыце. Але ўбачыце нешта іншае, можа, нават да вас яшчэ нікім не заўважанае. Назіраючы за прыродай, кожны раз адкрываеш для сябе дзівосны, нязведаны свет.





Сябры. Фота Міры Лукшы

СВЯТЛАНА ЛАЎРЫНОВІЧ

## СКОРАГАВОРКІ

Шчыра Вара
Шчыравала,
Над тканінай
Чаравала.
І нарэшце
Усмешка на твары:
Выйшлі ў Вары
Шаравары
І трусоў
Чатыры пары,
Двое плавак,
Паясок
І кухарскі каўпачок.

xxx

Просіць дзядулю
Унучак Хама:
- Не будзь, дзедусь, гультай,
Мне кішэню арэхаўназбірай.

xxx

Лёгкакрылыя буслы
Неслі з Крыма жалуды
І садзілі ўздоўж дарог
Дубы.

xxx

Чорнай ноччу чорны кот
Скокнуў ў чорны дымаход.
У дымаходзе чарната, чарната...
Ну, угледзь ты там ката!

xxx

Бора Іры даў ірыску,
Іра Бору - барбарыску,
А Іванка-дабрадзей
Носіць Іры цукар кожны дзень.

## ПЯТРО І ПАВЕЛ (ПЯТРОК)

Невядома, якое па назве свята папярэднічала дню Пятра ў дахрысціянскія часы, бо назва ягоная не захавалася. Царквой да яго былі прыстасаваны святы ў гонар апосталаў Пятра і Паўла. Па часе Пятрок адзначаўся праз пяць дзён пасля Купалля і нібыта працягваў купальскія гулянні. Святы Пётра лічыўся ў народзе апекуном хлебаробскай працы. Пасля Пятра лета пачынала хіліцца да восені, і сведчаннем таму наша прымаўка: «Прыйшоў Пятрок - апаў лісток». У добрае надвор'е, а яно ў тыя часы не давала такіх неспадзяваных халадоў і дажджу летам, з Пятра пачыналі сенакос. Тут трэба было добра папрацаваць, і вельмі патрэбнай стане скварка і вяндлінка, прыхаваная з каляд.

Калі на Тройцу дзяўчаты куміліся між сабой, то на Пятра ўжо куміліся з хлопцамі. Гэты звычай быў распаўсюджаны больш на ўсходзе Беларусі.

На Пятра, як і на Купалле, моладзь весялілася: наладжвалі карагоды, раскладвалі вогнішчы.

Калі на Тройцу дзяўчаты «завівалі» бярозкі, сплятаючы вецейка бярозак-суседак, то на Пятра іх развівалі.

Восень толькі яшчэ нагадвала пра сябе першым апаўшым лістком, а пара была цёплая, летняя, ноч - кароткая: «Ой-то-то. Пятрова ночка невялічка. Ня выспалася паненка».

А. РАЙКОВА

## Для самых маленькіх

КАЗІМІР КАМЕЙША

### СКАЧЫКІ

Выглянула сонейка -
І пайшлі у скачыкі
Па блакітным возеры
Жоўтыя гарлачыкі.

А пасля у лузе
На сцяблінках тонкіх
Заскакалі весела
З ветрыкам рамонкі.

І пайшла у скокі
Куранят сямейка.
Скача каля лужы
Шэры верабейка.

Скачуць, прысядаюць
У прысадах клёны,
І зялёны конік -
У траве зялёнай.

Скачуць аж да сонца
У дварышчы мячыкі.
Гэта што ж за танец?
Ён завецца -

«Скачыкі».



### ПЕЎНІК

Глінянага пеўніка
Мне падарылі.
Гліняныя ў пеўніка
Ножкі і крылы.

Хвост пер'ем гарыць,
І грабеньчык іскрыцца,
І свецяцца вочы,
Нібыта суніцы.

Ён самы прыгожы
З глінянай сямейкі.
Ну, пеўнік як пеўнік
Ды дзіўны ён нейкі:

Пяюць галасістыя
Пеўні ў дварышчы.
А мой не спявае,
А мой толькі свішча.



### КАМАРЫНАЯ ХМАРКА

Звоніць хмарка.
А дарма.
З хмаркі дожджыку няма.
Кажа тата:
- Гэта так:
Камары таўкуць свой мак.
А Міхаська тату кажа:
- Будзем есці з макам кашу.
Ён, Міхаська, любіць мак,
Добра маку знае смак.
Але дзе ён, мак той, дзе?
Дожджык макавы не йдзе.

 



*Стары Корнін.На школьным падворку ідзе гульня "ў гуму".*
**Фота М. Ваўранюка.**

# ЛІСІЦА, МЯДЗВЕДЗЬ І БОЧКА

Ішоў з гары Мядзведзь, нёс на карку бочку. Насустрач - Лісіца-хітрыца.

- Што нясеш, брат Міхайла?

- Мёд, сястрыца. У пчаляра купіў.

- А ці смачны ён?

- А ты не ведаеш? Дык гэта ж самае смачнае, што ёсць на свеце!

Заблішчалі ў Лісіцы вочы: так захацелася мядку пакаштаваць. Кажа Мядзведзю:

- Ну і дурань ты. Навошта такі цяжар на сабе цягнуць?

- А як жа інакш? - дзівіцца той.

- Дык ты бочку на зямлю пакладзі, яна сама з гары пакоціцца.

Паслухаўся Мядзведзь, спусціў бочку на зямлю, а яна і праўда сама пакацілася. «Разумная гэтая Лісіца, - думае Мядзведзь, - сам бы я век не здагадаўся».

Бочка коціцца ўсё хутчэй і хутчэй, а Лісіца сядзіць на гары і пасміхаецца.

Нядоўга, аднак, радаваўся Мядзведзь. Бочка раптам - трах! - грымнулася аб тоўстае дрэва і разбілася.

- У-у-у! - зароў Мядзведзь з жалю. - Што ж цяпер рабіць?

- Пчаляр вінаваты, - крычыць зверху Лісіца. - Ідзі да яго! Няхай другую бочку, моцную, дасць.

Паклыпаў Мядзведзь назад да пчаляра, а Лісіца - хутчэй мёдам ласавацца.

**ЛЕАНІД КАЧАНКОЎ**



# У ГЛІНЕ КАЗКА ЎВАСКРАСАЕ

Гліняны мужычок скача на гліняным кані. Тысячагоддзі і стагоддзі цяклі над зямлёю белых русаў. Круціўся ганчарны круг, вільготныя ад чырвонай гліны рукі майстра беражліва трымалі гарлачык, а стомлены круг засынаў. Але майстар зноў люляў камячок гліны і клаў на круг...

Звінеў, звінеў капяжамі век над курганамі. І адкапаныя ў іх фігуркі коней і сабак, рагуль і коцікаў чаравалі людзей. Страсянеш даўнюю цацку і заляскоча шарык з каменьчыкам усярэдзіне, падзьмеш у свісцёлачку - раздасца мілагучны свіст. Лічылася, што ён адганяе злых духаў, аберагае ад іх дзяцей. Маленькія Іванкі і Любавы снілі дзівосныя сны, і дамавічок у жоўта-ружовым каптанчыку махаў над іх соннымі тварыкамі жар-птушчыным пяром, і, калі яны плылі ў лодцы Ночы, ён на дыбачках падыходзіў да замешанай у вялізнай місе гліны і пачынаў круціць ганчарны круг, і выходзілі з-пад яго рук макацёр, гарлач, кубак, а затым у падземных лёхах расфарбоўваў іх кобальтавай, чорнай, зялёнай фарбамі, абпальваў у печы і ў лазовым кошыку нёс іх у дом гаспадара, а на досвітку здзіўлены ганчар заўважаў цуд і не мог даўмецца, чые вырабы стаяць на стале і шырокіх дубовых лавах. На кірмашы людзі, нібы анямелыя, узіраліся ў гліняное дзіва і неслі абачліва і асцярожна, нібы кволае шкло, посуд-казку дадому і прыбіралі ім толькі святочны стол.

І пажадаў дамавічок навучыць гаспадара хаты свайму ўмельству, памахаў над ім жар-птушчыным пяром і прашаптаў:

- Ідзі за мною не ў харомы каменныя, а ў лёхі падземныя. Толькі не кажы нікому, што бачыў там.

А ў лёхах падземных сабраліся гномікі ў рознакаляровых шапачках, жар-птушка і добрая-добрая Баба Яга. І кожны стаяў ля маленькай печы і абпальваў цацкі, толькі дамавічок займаўся посудам.

Баба Яга падміргнула гаспадару:

А ты ніколі не рабіў чырвоных пеўнікаў і мядзведзя з пыляняткам у руках? Грабеньчыкі ў пеўняў ружовыя, хвосцікі і пер'е блакітныя, зялёныя, белыя! Дзіцяці забаўка, днём свішчы, а ноччу кладзі на вушка гісторыі пра мяне, ласачку, лесуна і русалку.

- А я з чырвонай гліны раблю птушкі-шчабятушкі, у сярэдзіну ўкідаю гліняную гарошыну: «Дзіньдзілінь, дзілінь-дзінь», - звініць бразготка. І я ведаю: нас, жар-птушак, становіцца больш, - сказала птушка.

- Сустрэўся баран з канём, паразмаўляць, хацелі пра траўку-мураўку, аксамітавы лужок з смолкамі і званочкамі, але гаспадар у магерцы прышпорыў каня і... застаўся баранчык адзін на сцежцы, -крыўдліва сказаў гномік у блакітнай шапачцы, - але я вылепіў гэтыя фігуркі з гліны.

Іржаць бязгучна коні і едуць хлапчукі ў начное, муж з жонкай ідуць на кірмаш, керамічная дзяўчынка корміць керамічнага пеўніка, а сабачкі брэшуць...

Глядзеў гаспадар на вясёлы карагод цацак, і рукі пацягнуліся да гліны і фарбы. А гліняныя баба і мужык глядзелі з палічкі на гномаў, Бабу Ягу і жар-птушку і ведалі: настане зіма, холадна будзе гномікам і пойдуць яны ў лясы, дзе пад выварaтнямі ёсць падземнае царства з вечным сонцам і цеплынёй, жар-птушка паляціць на востраў Баян, Баба Яга ўвойдзе ў домік на курыных ножках і той паклыпае ў дрымучы бор, а Дамавічок будзе спаць у пячурцы на аксамітавай падушцы. А гаспадар, ведаўшы сакрэты гліны і фарбы, зленіць звонкія гаршкі для бульбы і гарлачы для малака, сваім дзеткам зробіць свісцёлкі і бразготкі - коні, бараны, пеўнікі пабягуць і паляцяць у дзіцячыя сны, як вешчуны цудаў, казак, шчадровак і вяснянак.

**ЛЮДМІЛА ЗАБАЛОЦКАЯ**




## ПАЛЯТУХА

Палятуха знешне вельмі падобна на звычайную вавёрку, але значна меншая за яе. Маса яе ўсяго 100-120 грамаў. Затое пушысты хвост даўжэй за цела. Пярэднія чатырохпалыя лапкі карацей задніх пяціпалых. Галоўка палятухі невялічкая, круглая, з кароткімі вушкамі, на якіх, у адрозненне ад вавёрчыных, няма кутасікаў. Вочкі вялікія, круглыя, выпуклыя, чорныя. Футра палятухі шчыльнае, мяккае, шаўкавістае. Зімой зверху серабрыста-шэрае, часам з цёмнай рабізной, летам - буравата-попельна-шэрае. Скурка вельмі тонкая, нетрывалая, і таму не выкарыстоўваецца ў футравай прамысловасці.

Палятуха селіцца ў дуплах розных дрэў, але аддае перавагу асіне. У адных дуплах жыве сама, а ў другіх робіць кладоўкі, дзе хавае каташкі бярозы і алешыны і іншыя прыпасы. Там, дзе мала дуплістых дрэў, палятуха будуе шарападобныя, дыяметрам да 20 сантыметраў гнёзды. Пры моцных маразах затыкае невялікі ўваход і можа не пакідаць гняздо некалькі дзён.

Палятуха, як і вавёрка, грызун, харчуецца грубай раслiннай ежай, асабліва сасновай хвояй, якая ёсць круглы год. Зімой корміцца таксама галінкамі, пупышкамі, карой вярбы, асіны, бярозы, клёна, восенню пладамі і пупышкамі чарніц і іншых ягаднікаў , жалудамі і арэхамі ляшчыны. Ноччу вядзе актыўны лад жыцця, а днём спіць у сваім дупле. У працэсе эвалюцыі ў палятухі, якая жыве на дрэвах, утварыліся шырокія скураныя перапонкі паміж лапкамі з абодвух бакоў тулава, якія дапамагаюць ёй скакаць з дрэва на дрэва, не спускаючыся на зямлю. У гэты час яна распраўляе перапонкі, тулава пры гэтым павялічваецца да 200 квадратных сантыметраў і нагадвае парасон. Гэта дазваляе палятусе планіраваць у паветры на адлегласць да 40-50 метраў! У палятухі ёсць і таямніцы, напрыклад, які прыплод яна прыносіць за год?

**А. КУРСКОЎ**




### ЧАРВІВЫ ГРЫБ

Чуе малы Піліп,
Што кажа яго тата:
- Вось зноў чарвівы грыб
Паўзе да нашай хаты!

І запытаў сынок
Старэнькага Алеся:
- Вы, дзядзечка - грыбок,
Што зачарвівеў у лесе?

### МАЛЫ ДАНОСЧЫК

- Агідны ты даносчык,
Данёс матулі хіба,
Што выпадкова з прошчы
Я сёння выбіў шыбу?!

- А я ж даносчык толькі,
Кажу, каб усе чулі,
Таму, што брата Колькі
Даношваю кашулі.

### ЦІ ХОДЗІЦЬ ТВОЙ БРАЦІК?

Міхасёва маці
Пытае Валодзю:
- Ці твой малы брацік
Ужо крыху ходзіць?

- Не ходзіць нікольки,
Ляжыць яшчэ ў ложку.
Але брат мой, Колька,
Ужо мае ножкі.

### МЫЙ ЗУБЫ!

Вельмі просіць Якуба
Карпатлівая маці:
- Часта мый свае зубы,
Гэта ж наша багацце.

Якуб глянуў на цёцю:
Яна ж часта рот мые,
І ёй выраслі ў роце
Зубы два - залатыя!



 

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ**

# ХТО ВЫКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ

**/пачатак у 25 н-ры/**

Паколькі спіс 1944 года быў няпоўны, разам з копіяй акта І. Клімаву ўручылі таксама запіску з пералікам іншых украдзеных з музея рэчаў, сярод якіх былі: срэбная булава караля Польшчы і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Вазы, дзве срэбныя пячаткі, атрыманыя Магілёвам разам з магдэбургскім правам, срэбная мітра магілёўскага праваслаўнага архіепіскапа Георгія Каніскага, вялікі кантовы срэбны спод з ціснёнымі выявамі сімвалічных сцэнаў, прысвечаны расейскаму цару Аляксею Міхайлавічу, вялікі срэбны кубак з партрэтам Пятра І, ужо згаданае раней слуцкае Евангелле 1582 года, колькі антычных залатых рэчаў /каралі, пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі/ з раскопак Пампеі ды іншыя унікальныя каштоўнасці. У гады вайны з музея зніклі таксама славутыя магілёўскі брацкі абраз з надзвычай багатым акладам і бялыніцкі абраз Божай Маці. Пра гэтыя святыні ўжо не адно дзесяцігоддзе ходзяць упартыя чуткі, што яны закапаныя дзесьці ў Магілёве.

Пасля сустрэчы з І. Клімавым рэспубліканскія ўлады на ўсе запыты вучоных адказвалі маўчаннем. Лёс нацыянальных скарбаў іх не цікавіў. Тады дырэктар музея І. Скварцоў запісаўся на прыём да начальніка абласнога ўпраўлення КДБ таварыша Дзямідава. Той выявіў зацікаўленасць і паабяцаў заняцца справаю пры ўмове, што атрымае каманду з абкама. Але хто і якую каманду даў Дзямідаву, засталося загадкаю, бо яго ў хуткім часе перавялі ў іншы горад.

Цяпер вернемся да падзей пачатку вайны. Усе, хто гаварыў з былым дырэктарам І. Мігуліным, звяртаюць увагу на блытаніну ў яговых справах. Часам ён сцвярджае наогул, далікатна кажучы, малаверагодныя рэчы. Як мы ўжо ведаем, у першыя дні вайны Мігуліна ўзялі ў апалчэнне. Але ж ён быў інвалід - меў толькі адну руку, прычым левую.

Калі верыць аднарукаму апалчэнцу, у будынку абкама ў гады акупацыі стаяла вайсковая частка. Доўгі час на пакой-сейф за бранiраванымі дзвярыма ніхто не звяртаў увагі, але аднаго разу цікаўны жаўнер знадворку дабраўся па драбінах да закратаванага акна і ўбачыў, што за ім нешта блішчыць. Пасля гэтага немцы нібыта зрэзалі цяжкія дзверы аўтагенам, ашалелі ад ззяння золата, срэбра і каштоўных камянёў і вывезлі ўсё немаведама куды. Такую гісторыю малюе Мігулін са словаў нейкіх магілёўцаў, што перажылі акупацыю.

Але ж сотні людзей могуць засведчыць, што старыя бранiраваныя дзверы /да таго ж абсалютна цэлыя/ у былым будынку зямельнага банка па вуліцы Міронава, 33 знялі толькі гадоў пяць-шэсць таму, а другія, кратаваныя, па-ранейшаму на месцы. Значыцца, версія з акупантамі, узброенымі аўтагенам, здымаецца.

На нашую думку, бліжэйшымі да праўды выглядаюць паведамленні старых магілёўскіх месцічаў, што ў чэрвені 1941 года ў будынак банка зайшла група людзей у форме НКВД, якія адчынілі пакой-сейф ключом, склалі каштоўнасці ў падрыхтаваныя загадзя мяхі і ад'ехалі ў невядомым кірунку.

Калі ўсё здарылася менавіта так, тыя энкавэдэшнікі былі б яўна задаволеныя, прачытаўшы ў 1981 годзе ў газеце «Голас Радзімы» /якая, заўважым, выдаецца для замежных беларусаў/ навелу Г. Ланеўскага «Украдзены крыж». Дзеянне ў гэтым творы, вытрыманым не ў лепшых традыцыях нашай ваеннай літаратуры, адбываецца у чэрвені 41-га. Крыж, вядома, крадуць акупанты, прычым не з асабняка, у якім некалі мясціўся зямельны банк, а з музея, дзе рэліквіі, як даказваюць факты, ужо даўно не было.

Дваццаць гадоў таму Адам Мальдзіс надрукаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкул «Сляды продкаў», выклаўшы там некаторыя з пададзеных раней звестак. Ішла гаворка і пра тое, што след рэліквіі можа знайсціся за акіянам. Пасля гэтага двое вядомых беларусаў-эмігрантаў Вітаўт Тумаш і Вітаўт Кіпель ад імя Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША звярнуліся да супрацоўнікаў размешчаных у Нью-Йорку Морганаўскіх бібліятэкі і калекцыі твораў мастацтва.

Спроба даведацца пра лёс крыжа нешта новае не дала ніякіх вынікаў. Паведамляючы пра гэта ў друку, доктар Тумаш вельмі слушна зазначыў: дапамагчы ў пошуку магло б абнародаванне назваў савецкіх устаноў і асобаў, на адказнасці якіх крыж быў напярэдадні вайны. Канчаткова не абвяргаючы і версію захопу рэліквіі немцамі, замежны навуковец лічыць, што ў тых умовах крыж маглі лёгка прыбраць да рук «даверанья» асобы партыі і НКВД. У такім разе ён сапраўды паехаў з Магілёва не на захад, а на ўсход. Аднак жа і такі шлях не выключае магчымасці продажу нашай святыні на аўкцыёне /або таемна/ за мяжу. Пагатоў аўтар выдадзенай ў 1949 годзе ў Парыжы кнігі «Сьв. Еўфрасіня-Прадслава» Леў Гарошка пісаў: «Каля 1930 г. былі паявіліся весткі ў газетах, што бальшавікі мелі яго /крыж. - У. А./ прадаць у Швэцыю».

Магілёвец Е. Філіповіч прапанаваў А. Мальдзісу яшчэ адну нітачку пошукаў, пра якую вучоны расказваў у сваёй кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў»: «Настаяцель царквы ў імя Еўфрасінні ў Полацку Міхаіл Кузьменка называў прозвішча другога мільянера - Ракфелера. Нібыта ў архіве Ракфелера працаваў у 1962 годзе прафесар-гісторык з эмігрантаў Уладзімір Скаралеці, які і бачыў там крыж».

Яшчэ больш заблытвае справу існаванне копій полацкай рэліквіі. Месцазнаходжанне адной з іх, крыжа Параскевы Полацкай, мы ведаем - Яраслаўска-Растоўскі музей-запаведнік. Але ж быў і дублікат, зроблены ў свой час езуітамі з мэтаю выкрадання арыгінала з уніяцкага Сафійскага сабора.

**/заканчэнне будзе/**




**Дарагое Сэрцайка!**

Я чула даволі часта ад старэйшых жанчын, што выгляд хлопца яшчэ аб нічым не гаворыць. Адна дык казала нават, што чым прыгажэйшы хлопец, тым менш ён радзіць сабе з сексам. І вось у 26 нумары „Нівы" (ад 28 чэрвеня 1992 г.) я прачытала артыкул Андрэя Гаўрылюка „Платнае каханне ў больших гарадах", у якім ён размаўляў з дзяўчатамі, што з сексу зрабілі сабе прафесію. Там адна з дзяўчат, Агатка, сказала:

„Найгорш, калі трапіцца мужчына з комплексам горшасці. Асабліва, калі прастытутка мае быць для іх лякарствам на імпатэнцыю. Ой, колькі з ім валакіты! Спачатку жаліцца над сабою, якія яны нешчаслівыя, а пасля разам марнуем час. У канцы — плач і просьба ратаваць яго".

Агатка быццам выняла гэтыя словы з маіх вуснаў. Нядаўна я пазнаёмілася з вельмі прыгожым хлопцам. Сяброўкі аж пабялелі, калі ўбачылі яго. Мы пачалі ўсюды хадзіць разам. Ён не адступаў ад мяне ні на крок. Пацалаваліся праз тыдзень знаёмства. Рабіў гэта цудоўна! Мне нават у галаву не прыйшло, што ў пасцелі можа ён быць іншы. А ўсё ж такі, калі праз месяц я аддалася яму, то нават падумала: „Навошта я гэта зрабіла?!" Праўда, не быў ён маім першым хлопцам, дык пры пазбаўленні мяне дзявоцтва напрацавацца не мусіў. Але і так... якое слабенькае і кволае аказалася наша збліжэнне! Ён, як і той Агатчын імпатэнт, надта стараўся і мучыўся, злаваўся, што ў яго не выходзіць, наракаў на тое, што ён нешчаслівы, кідаўся нават, абражаны (на каго?) да мяне. Я разгубілася. Была стомленая і таксама злосная. У памяці застаўся толькі нейкі нясмак.

Доўга пасля гэтай сустрэчы мой хлопец не адзываўся. Пасля паявіўся і запрапанаваў пайсці ў кіно. І так круціў увесь час, што неяк не выходзіла нам застацца ўдваіх, каб не было сяброў і сяброваk. А я ж бы ўжо нават мо ізноў пайшла ў пасцель, бо хлопец мне, нягледзячы на ўсё, падабаецца. Але што рабіць, калі ён, бадай, не хоча са мной больш кахацца?..

**Вераніка**

Вераніка! Хлопец баіцца цябе, сябе і ўсяго свету. А найбольш, бадай, баіцца сябе: ізноў жа можа не выйсці. Яшчэ была б надзея, што гэта ў яго не выйшла, бо быў з табою першы раз. А некаторыя ж лічаць нават, што калі першы раз не выйшла, дык пасля будзе вельмі добра. Аднак жа спадзявацца на гэта занадта нельга. Яго паводзіны — тыповыя для імпатэнта. Менавіта: нараканне на нешчаслівасць, ірытацыя абы-чым, злаванне пасля — уцяканне ад дзяўчыны, якую кахае, а толькі дзеля таго, каб не страціць гонару. Калі быў з табой толькі раз, дык мо ты яшчэ не абзавеш яго імпатэнтам...

Пастарайся быць з ім далікатнай і цярплівай. Рабі тое, што ён хоча. Не папракай яго, што слабы з яго мужчына. Яму і так нялёгка. Ну, а час пакажа.

**СЭРЦАЙКА**

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА**
**ЛЕКСІКАЛОГІЯ.**
**13. Стылістычная дыферэнцыяцыя лексікі — працяг.**

**Лексіка вусных стыляў мовы.1/**

Важнейшымі прыметамі вусных стыляў мовы з'яўляюцца: размоўная інтанацыя, сінтаксічныя канструкцыі спрошчанай будовы і размоўная лексіка і фразеалогія.

„Размоўны характар лексікі праяўляецца галоўным чынам у яе стылістычнай выразнасці (экспрэсіўнасці) і адпаведна ў спецыфічнай эмацыянальнай афарбоўцы пэўных слоў і зваротаў. Дзякуючы гэтым адзнакам размоўная лексіка больш ці менш яскрава выступае на фоне стылістычна нейтральнай лексікі і як бы парушае старыя нормы „літаратурнага этыкету". Акрамя таго, размоўныя словы маюць свае семантычныя, а часта і фанетыка-марфалагічныя асаблівасці".2

У **літаратурна-гутарковым стылі** шырока выкарыстоўваюцца розныя стылістычныя пласты лексікі. „Значыць, паведамленне на адну і тую ж тэму, вуснае ад пісьмовага адрозніваецца не складам лексікі, а канцэнтрацыяй, частотнасцю тых ці іншых лексічных адзінак, што і надае мове адценне гутарковасці".3/ Стварэацца яно ў выніку шырокага выкарыстання:

— незнамянальных слоў тыпу *ведаеш, вось, ну, значыць, так сказаць*;

— эмацыянальных словазлучэнняў тыпу *здаровы камень, сімпатычны касцюм, страшэнна падабаецца.* Да слоў, якія маюць стылістычнае адценне гутарковасці і якія выкарыстоўваюцца ў літаратурна-гутарковым стылі, належаць:

— назвы тыпу *газіроўка, электрычка, сталоўка*;

— субстантываваныя назвы са значэннем асобы: *вясковыя, гарадскія, універсітэцкія*;

— усечаныя назвы тыпу *дыплом* (дыпломная работа), *дэтэктыў* (дэтэктыўны раман, фільм), *транзістар* (транзістарны прыёмнік).

У **размоўна-бытавым стылі** выкарыстоўваюцца словы:

— якія абазначаюць розныя прадметы быту, што не маюць эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі, у сувязі з чым можна іх залічыць да стылістычна нейтральнай лексікі: *апалонік, бліны, дзежка, запечак, скварка*;

— са значэннем адмоўных якасцяў чалавека: з эмацыянальна-экспрэсіўным адценнем неадабрэння: *беларучка, ветрагон, гаварыльня, галаштаннік*; зневажальнасці: *валацуга, гультай, лайдак*; пагардлівасці: *боўдзіла, брахун, жмінда, зануда*;

— прастамоўныя, якім уласцівая ярка выражаная адмоўная эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка: *губашлёп, агглавушыць, шныпарыць*;

— лаянкавыя з адценнем грубасці: *асталоп, балван, дурыла, ёлуп, ідыёт*;

— вульгарныя: *зяпа, пыса, апруцянець, здохнуць, жэрці, смаркач.*

„Лаянкавыя і вульгарныя словы знаходзяцца на перыферыі лексічнага складу беларускай мовы, таму іх выкарыстанне сведчыць пра нізкую моўную культуру. У мове мастацкай і публіцыстычнай літаратуры яны сустракаюцца толькі ў дыялогах, пры паказе адмоўных персанажаў, іх паводзін і ўчынкаў".4

Адрозненні паміж словамі па іх стылістычнай афарбоўцы выразна адлюстроўваюцца ў **лексіка-стылістычных парадыгмах**, якія складаюцца з трох пазіцыяў: кніжнага слова — стылістычна-нейтральнага слова — вусна-размоўнага слова, напр.: *лік* (кніж., уст., высок.) — *твар* (нейтр.) — *морда* (разм., груб.), *мурло* (вульгар, груб.), *пыса* (вульгар., груб.)

Лексіка-стылістычныя парадыгмы бываюць поўныя і няпоўныя.

Поўныя парадыгмы складаюцца з трох асноўных пазіцыяў, напр.: *спачыць* (кніж., высок.) — *памерці* (нейтр.) — *адубець, загнуцца, здохнуць*(разм.,груб.).

Няпоўныя парадыгмы складаюцца з дзвюх пазіцыяў: рэдка — з кніжнага і стылістычна-нейтральнага слоў, даволі часта — са стылістычна нейтральнага і вусна-размоўнага слоў, напр.: *доблесны* (кніж., высок.) — *адважны, смелы* (нейтр.); *адказаць* (нейтр.) — *адрэзаць* (разм.); *есці* (нейтр.) — *падмацоўвацца, падсілкоўвацца* (разм.), *жэрці* (разм., груб.).

У асобныя пазіцыі лексіка-стылістычнай парадыгмы можа ўваходзіць адно слова або некалькі слоў, у сувязі з чым называюцца яны аднакампанентнымі ці шматкампанентнымі.

———————————

1 Літаратура: В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 74—77; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 177-178; А.К. Малюк, Эмацыянальныя асаблівасці гутарковага слова, у: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. III, Мінск 1975, с. 57—63.

2 Курс...: с, 177.

3 В.П. Красней, ... с. 75

4 Там жа, с. 76

## ІМПАРТГУМАР

Галівудская кіназорка звоніць сяброўцы:

— Праз два дні адбудзецца маё вяселле, і я запрашаю цябе на яго.

— Віншую. Спадзяюся, твой нарачоны Джоні адчувае сябе на сёмым небе.

— Наадварот, ён шалее ад злосці, бо я выходжу замуж за яго бацьку-мільянера.

* * *

У невялікім французскім гарадку ветэрынар адначасова супрацоўнічаў у паліцыі. Аднойчы ноччу ў яго кватэры зазвінеў тэлефон. Мужчынскі голас пытае:

— Мэс'е Клашар?

— Так.

— Гаворыць фермер Дзюваль. Ці не змаглі б вы зараз прыехаць да мяне?

— У якасці ветэрынара ці паліцэйскага?

— У дзвюх ролях, бо я не магу расчапіць сківіцы майго сабакі, які схапіў за нагу злодзея.

* * *

— Ты сапраўды не ведаеш, хто бацька твайго дзіцяці, Нэлі?

— Сапраўды не ведаю. Мяне заўсёды можна было ўпікнуць у лёгкадумства, але ў цікаўнасці — ніколі.

* * *

Два ўзломшчыкі арудуюць у чужой кватэры. Раптам раздаецца пранізлівае выццё сірэны.

— Паліцыя! Скачы хутчэй у вакно!

Ты што? З трынаццатага паверха???

— Скачы, скачы, цяпер не да забабонаў!

* * *

Пракладаючы кабель на футбольным полі, рабочыя знайшлі ў зямлі дзве ўстаўныя сківіцы і судзейскі свісток.

— Асцярожна капайце, хлопцы, — сказаў брыгадзір, — магчыма, мы адкапаем цэлы шкілет суддзі.

— Ну, гэта наўрад. Рэшта яго частак хутчэй за ўсё выратавалася ўцёкамі.

* * *

— Кельнер, у курыцы, якую вы мне прынеслі, адна скура ды косці!

— Што зробіш, цяпер мода такая — усе хочуць пахудзець.

* * *

Банкір пытае свайго служачага:

— Які сёння дзень?

— Сёння ў нас пятніца, сэр, — адказвае той.

— Што гэта значыць „у нас"? — злосна ўсклікнуў банкір. — З якіх пор вы сталі маім кампаньёнам?

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ




Мал. Андрэя Адамовіча.

### ФЛЮГЕР

Трымаў на ветры нос,
Цвярозы і пры «дозе»,
І бацькаў помнік знёс
Рашуча, як бульдозер.

### СКАРГА ПАСЛЯ АДМЕНЫ ПРЫВІЛЕЙ

Дзе знайсці закутак,
Каб атрэсці пыл?
Робяць жа абутак
На адзін капыл.

### ХРАНІЧНЫ АДЧАЙ

З вечара не спіцца,
З раніцы не ўстаць
І хочацца напіцца,
Як дурню засвістаць.

ЮРКА ГОЛУБ

### МЫ - БЕЛАРУСЫ

Як называюць вас?
- Мы - беларусы.
Дзе жывяце вы?
- На Беларусі.
Роду якога вы?
- Род наш - славянскі.
Хто памагаў вам?
- Бог хрысціянскі.
Чым знакамітыя?
- Працай умелай.
Сцяг аб'яднаў вас які?
- Бел-чырвона-белы.
Хто абароніць вас?
- Наша «Пагоня».
Што вам патрэбна?
- Жыць самастойна.

ТАДЭВУШ ШПІГАНОВІЧ

*/вершык напісаны пад уздзеяннем вядомага польскага «Кто ты?» - перадрук з «Вожыка»/.*

## МАКАТРАЗМЫ

### АРАКУЛ

Суседскім бытам незямным,
Прароцтвамі заняты,
Ён на падворышчы сваім
Вырас на Герастрата.

### ДЗЯЖУРНЫ ПАЭТ

Стаяў на «Варце міру» ён.
Шажок - і шэпча «Вераю».

СІДАР МАКАЦЁР

### НУ, ПАЧАКАЙ

Былы рабочы, а зараз прапаршчык мясцовай гвардзейскай часці Савось Курок уварваўся ў кватэру, падбег да жонкі і з крыкам «Ура!» падкінуў яе ўгору.

„Мабыць, выйграў у „Спрынт"? Ці павысілі на службе?" - мільганулі ў яе думкі. Савось бегаў па кватэры з кутка ў куток. Жонка моўчкі здзіўлена назірала за мужам.

- Пад'ём і адбой будзеш рабіць у адзін і той жа час! - камандзірскім голасам чаканіў Курок. - Згнаю на кухні! Праз дзень - на рамень, і ў нарад! Будзеш у мяне траву фарбаваць, каб заўсёды была зялёная! Будзеш днявальным стаяць ля тумбачкі, як ля маўзалея! Хадзіць толькі страявым, кожны вечар стаяць на адной назе і кукарэкаць, як певень, колькі мне засталося служыць да пенсіі! Мае боты будзеш называць на «вы»!

- Ды пра каго ты, - не вытрымала жонка, - пляцеш нейкую лухту.

- Ды пра яго, - зарагатаў Савось, - пра свайго былога начальніка! Ён таксама, як і я, трапіў пад скарачэнне і падаўся ў прапаршчыкі. Зараз я - яго начальнік!

ВІКТАР БАЙДАКОЎ

## РАЗЕТКА НА «Н»

**Управа:** 1/ няма свабоды, 2/ ніжэй 200 м над узроўнем мора, 3/ агромная сіла, якая прыгнятае, 4/ страшнае паражэнне баксёра, 5/ усё данае Богам, 6/ ані слова, 7/ слова на прадмеце, 8/ люлюкае.

**Улева:** 1/ вялікі горад у Кітаі /змяшчае тры н/, 2/ веды, веды, веды, 3/ чалавек, ад якога цяжка адчапіцца, 4/ свежая вестка, 5/ серабрыста-белы, тугаплаўкі метал, 6/ бязладнае зборышча, 7/ цяпер твае - гэта разгадаць усе словы, 8/ млосны стан перад рвотай.

ЯДАНЬ



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказы на разетку з 22 н-ра. **Управа:** газета, гуляка, гладыш, грэчка, глобус, гурток, грызня, Гомель. **Улева:** гамана, газель, галота,градка, Грэцыя, глотка, гарбуз, глыток.




**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцыляры), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.